**БЕЗ ВАДЫ** застаюцца ў выхадныя дні жыхары горада Івацэвічы 2

**26 СОБАК** зарегистрировано в городе Ивацевичи за два года 6

**ПРОРВАЛО...** ФК "Берёза" одержал в городе пивоваров победу 12

Наш корреспондент отправился в Чехию выведать секрет приготовления **НАСТОЯЩЕГО ПИВА.** Что из этого вышло — читайте в следующем номере газеты.


# ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН-КОБРЫН

выдаецца са студзеня 1997 года 2 — 8 жніўня 2002 г. № 31 (346)


# "ДУБРАВУШКА" СЁННЯ

## Фотарэпартаж з летняга дзіцячага аздараўленчага лагера ў Івацэвіцкім раёне

**Прычынай паездкі ў "Дубравушку" сталі тэлефонныя званкі ў рэдакцыю. Паведамлялася, што там дрэнна кормяць дзяцей, няма мясных страў. Калі хтосьці з групы правінаваціцца, то ўсёй групе не даюць есці. Дзеці, маўляў, вяртаюцца з лагера вашывымі. Ёсць факты ўцёкаў малышоў з "Дубравушкі"...**



Святаслаў КАЖАДУБ.

Дзеці малодшай групы гуляюць разам са сваёй выхавальніцай.

Нельга было не адгукнуцца на такія паведамленні жыхароў г. Івацэвічы. У мінулую пятніцу перад апоўднем мы былі ў "Дубравушцы", што ў трох кіламетрах ад Быцені. Зырка свяціла ліпеньскае сонца.

Ужо ў варотах нас сустракалі хлопчыкі і дзяўчынкі, якія тут дзяжурылі, і таксама тыя, хто проста адпачываў ў альтанцы.

— Як адпачываеце? — задаў я першае пытанне дзецям.

— Добра, — дружна адказалі хлопчыкі і дзяўчынкі.

— А ці ўсе ў вас на месцы? Ніхто не ўцёк дамоў? — было чарговае пытанне.

Дзеці пераглядваліся між сабой, не ведаючы, што адказаць. Адзін з хлопчыкаў гадоў дзесяціадзінаццаці звярнуўся да мяне:

— А чаго вы пытаеце?

Я расказаў аб тым, што, едучы сюды, сустрэлі на дарозе за Быценем хлопчыка з сумкай на плячы.

— Такі чорненькі, невысокі? — перапытаў той жа хлапчук. — Гэта Дзіма, — і пабег.

Неўзабаве паявіўся начальнік лагера Сяргей Веніямінавіч Чэлнакоў. Ён сеў за руль сваіх "Жыгулёў" і паімчаўся за ўцекачом. Сапраўды, ім аказаўся Дзіма Кахновіч з вёскі Канатоп Пінскага раёна. Гутару з Дзімай.

— Чаго ж ты ўцёк з лагера? — пытаюся Дзіму.

— Можа, цябе хто пакрыўдзіў?

— Не, дадому вельмі захацеў, — адказаў хлопчык. — Засумаваў.

— А ты грошы меў, каб заехаць у сваю вёску? — перапытваю хлопчыка.

— Не, не меў, — адказаў Дзіма.

У размову ўступае начальнік лагера.

— Асабліва першы тыдзень, — сказаў Сяргей Веніямінавіч, — дзеці з цяжкасцю прывыкаюць да новых умоў жыцця, у большасці тыя, хто першы раз у лагеры. Так здарылася і з Дзімай Кахновічам. А пазнаёміўшыся адзін з адным, пра ўцёкі дзеці ўжо не думаюць.

Аб гэтым гаварылі і іншыя работнікі лагера. Ёсць, пэўна, логіка ў такіх тлумачэннях.

XXX

Наконт харчавання водгукі ў дзяцей самыя станоўчыя.

— Кормяць нас добра. Нават усё не з'ядаем. Асабліва ў абед, — казалі мне хлопчыкі і дзяўчынкі, з якімі давялося гутарыць. — Дома не часта нас так кормяць...

Што тыдня штодзённага харчавання дзяцей і наогул усіх лічбаў, то тут усё ведае бухгалтар Надзея Іосіфаўна Бянасік.

— Не ведаю, хто б мог так прыдумаць, што ў нас дрэннае дзіцячае харчаванне, — пачала Надзея Іосіфаўна. — Мы ўсе стараемся, бо гэта ж дзеці. Кожны дзень у нас асобнае меню, і ўсе дакументы захоўваюцца. Можна паглядзець меню любога дня: там усё распісана, усё падлічана. Ніякага падману. Аб гэтым і думаць не хочацца...

Дзяцей у лагеры кормяць пяць разоў у дзень. Кошт дзённага харчавання аднаго чалавека складае ў сярэднім 2600 рублёў. Вось меню за 12 ліпеня гэтага года. Снеданне: макароны адварныя з каўбасой "Бярозаўскай", бутэрброд з маслам і чай з лімонам; абед: салат са свежых агуркоў, боршч са свежай капусты, бефстрoганаў з рысавай кашай, сок бярозавы; полдзень — ёгурт; вячэра: салат са свежых памідораў, рыба смажаная (мінтай) з бульбяным пюрэ, кісель з чарніц; другая вячэра: кефір і слойка здобная.

Як бачым, на такое харчаванне нельга скардзіцца. У той дзень, наведаўшы сталовую, я сам мог упэўніцца, што абед быў сытным і смачным. Можа хто падумаць, што спецыяльна падрыхтаваліся да гэтага дня? Але такога не можа быць, бо прыехалі мы ў "Дубравушку" без усялякага папярэджання кіраўніцтва лагера.

Загадчыца вытворчасці Ганна Фамінічна Русак, брыгадзір павароў Раіса Аляксандраўна Усатая гаварылі аб тым, што харчаванне дзяцей наладжана згодна нормы з захаваннем усіх санітарна-гігіенічных правілаў. Я ніколькі не сумняваўся ў праўдзівасці сказанага, бо сам аглядзеў і кухню, і сталовую, і падсобныя памяшканні. Усюды была чысціня і парадак.

XXX

Здароўе дзяцей — галоўны клопат усіх работнікаў лагера, і ў першую чаргу ўрача-тэрапеўта Алены Трафімаўны Зыбайла.

— Акрамя таго, што мы ўважліва сочым за якасцю і збалансаванасцю харчавання, — гаворыць Алена Трафімаўна, — мы даем дзецям вітаміны: глюкозу, равіт, аскарбінку, вітус ("Крепыш"), асабліва для дыспансернай групы, гэта значыць, для дзяцей з аслабленым здароўем...

Закрануў я ў гутарцы і з дзецьмі, і з работнікамі лагера пытанне педыкулёзу.

— Усе групы, згодна з графікам, — сказаў начальнік лагера С. В. Чэлнакоў, — ходзяць у душ. Скаргаў на тое, што дзеці вяртаюцца з лагера вашывымі, у нас не было. Такога і не можа быць, бо ўсіх дзяцей мы рэгулярна правяраем. За асабістай гігіенай сваіх падначаленых пастаянна сочаць выхавацелі...

Як сказалі мне, у лагеры былі два выпадкі, калі дзяўчынкі паступілі да іх з педыкулёзам, а ў даведках было чыста і гладка. Не адпраўлялі іх дамоў, а апрацавалі патрэбным лякарствам іх галовы на месцы.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**
**Івацэвіцкі раён.**

**(Працяг на 6-й стар.)**

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Отстояли редактора

**Президиум Совета Федерации профсоюзов Белорусской не поддержал инициативу нового председателя ФПБ Леонида Козика об отстранении Александра Старикевича с должности главного редактора профсоюзной газеты "Беларускі час".**

Инициатором увольнения был именно Козик, чего он и не скрывал: "Беларускі час" — газета всех профсоюзов, и это не стенгазета, где можно практиковаться в каких-то личных или ещё каких-то вопросах. Газета не должна быть такой, как сегодня. Ничего конкретного, всё общее, а нам надо с вами жизнь строить, организацию создавать, укреплять её, сохранять отраслевые профсоюзы. Я не могу работать с газетой, которая не разделяет эти взгляды. С сегодняшним редактором мы такую газету не создадим".

## Коммерческие фирмы жертвуют на уборочную

**Коммерческие фирмы, поставляющие нефть в Беларусь, уже выделили бесплатно на уборку урожая 20 тысяч тонн топлива и еще столько же обещают выделить.**

Как сообщило вечером 26 июля Белорусское телевидение, договоренность об этом достигнута между правительством и представителями крупнейших компаний-поставщиков нефти.

## Кто помирит братьев

**Геннадий Зюганов готов взять на себя миссию посредника между президентом России Владимиром Путиным и Александром Лукашенко.**

Об этом лидер КПРФ заявил, выступая 29 июля в прямом эфире радиостанции "Эхо Москвы". По его словам, нет другого способа выбраться из тяжелого тупика, кроме как интегрироваться, прежде всего, с Беларусью и Украиной. При этом Геннадий Зюганов высказал свое несогласие с позицией Владимира Путина, заявившего, что вопросы объединения нужно решать постепенно, не торопясь.

## Купацца забаронена

Забаронена купанне на возеры Свяцілавецкае ў г. Баранавічы, рацэ Заходняя Дзвіна ў рысе гарадоў Віцебск і Полацк, рацэ Днепр у г. Дуброўка, Лучэса ў Віцебску, Сож у Крычаве, у Мінскім раёне — на вадасховішчах Заслаўскае, Дразды, Крыніца, Дуброўскае і інш. У цэлым па стану на 19 ліпеня па рэспубліцы вынесена 86 пастаноў аб забароне купання. Галоўным чынам, гэта звязана з перавышэннем нарматываў ўтрымання ў вадзе бактэрый групы кішэчнай палачкі.

## 40 працэнтаў прадпрыемстваў стратныя

**На 1 чэрвеня гэтага года 40,9 працэнта беларускіх прадпрыемстваў былі стратныя.**

Сума страт, паводле інфармацыі Міністэрства статыстыкі і аналізу, склала 262,3 млрд. рублёў, у тым ліку ў прамысловасці — 108,5 млрд., сельскай гаспадарцы — 54,5 млрд., жыллёва-камунальнай гаспадарцы — 36,7 млрд., на транспарце — 22,7 млрд., у гандлі і грамадскім харчаванні — 19,8 млрд. На 1 чэрвеня мінулага года ўдзельная вага стратных прадпрыемстваў была роўная 35,6 працэнта. У той жа час у студзені бягучага года гэты паказчык дасягаў 47,2 працэнта.

У прамысловасці доля стратных прадпрыемстваў на 1 чэрвеня гэтага года склала 38,7 працэнта (год таму — 31,6), на транспарце (уключаючы трубаправодны) — 34,1 (35,1), у будаўніцтве — 31,1 (22,5), у гандлі і грамадскім харчаванні — 39,2 (34,6), у жыллёва-камунальнай гаспадарцы — 40 (35,9).

Найбольшая доля стратных прадпрыемстваў ва ўсходніх рэгіёнах краіны: у Магілёўскай вобласці — 54,1 працэнта, у Віцебскай — 51,2, у Гомельскай — 46,6. У Мінскай вобласці гэты паказчык роўны 45,7 працэнта, у Брэсцкай — 38,5, у Гродзенскай — 36,3, у Мінску — 18.

## Сярэдні конкурс у ВНУ РБ склаў 3,5 чалавека на месца

**Сёлета ў прыёмныя камісіі ВНУ былі пададзены 85 тысяч 847 заяў.**

Як паведамілі БелаПАН у галоўным упраўленні вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Міністэрства адукацыі Беларусі, сярэдні конкурс пры паступленні ў ВНУ Беларусі склаў 3,5 чалавека на месца (2001 год — 3,4). Самы высокі — 6,3 чалавека на месца — сёлета ў Акадэміі кіравання пры прэзідэнце Беларусі (2001 год — 4,7). Наступны "лідэр" — Гомельскае вышэйшае камандна-інжынернае вучылішча МНС Беларусі, дзе конкурс склаў шэсць чалавек на месца (у 2001 годзе — 2,8).

**(Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў).**

# БЕЗ ВАДЫ

## застаецца ў выхадныя райцэнтр

**ІВАЦЭВІЧЫ. Жыхары нашага райцэнтра не маглі не заўважыць, што ў выхадныя дні напор вады з кранаў або рэзка зніжаецца, або, увогуле, падача вады (і гарачай, і халоднай) спыняецца. Так, у нядзелю, 28 ліпеня, вечарам цэлы шквал званкоў абрушыўся на дыспетчарскую "Івацэвічырайвадаканала". Дыспетчары далікатна імкнуліся патлумачыць сітуацыю, але ж і людзям ад гэтага не лягчэй, таму часам у адрас дыспетчараў няслася лаянка.**

Чаму гарачае лета 2002 года прынесла такія праблемы? Ці не будуць яны хранічнымі? З такімі пытаннямі мы звярнуліся ў КУП ВКГ "Івацэвічырайвадаканал". Вось што расказаў чытачам "Газеты для вас" **Уладзімір Васільевіч Дзягцярык**, начальнік участка гэтай установы:

— Праблема будзе існаваць да таго часу, пакуль на вуліцы будзе стаяць спякота, а жыхары горада на паліў градак, агародаў, цяпліц будуць выкарыстоўваць велізарны аб'ём вады. Выхад з гэтай сітуацыі бачу наступны: трэба паўсюдна ўстанаўліваць лічыльнікі вады. А прычына больш чым зразумелая і банальная: тэхнічныя магчымасці па водазабеспячэнні не адпавядаюць патрабаванням часу. Як 10-15 гадоў таму назад, у нас зараз — 10 скважын, тры рэзервуары: два з іх аб'ёмам 400м³, адзін — 800м³. Літаральна цераз паўгадзіны, як толькі спажыўцы масава пачынаюць уключаць ваду, яе ўзровень у рэзервуарах падае вельмі значна.

Але ж за гэтыя 10-15 гадоў горад змяніўся вельмі істотна, колькасць спажыўцоў узрасло, а тэхнічныя магчымасці, паўтаруся, усё тыя ж. Ведаю, што разглядалася пытанне аб будоўлі яшчэ некалькіх скважын, але па фінансавых прычынах гэтае пытанне заглухла. Канкрэтна скажу наступнае: калі захаваецца гарачыня і спякота, то не выключана, што і на гэтыя выхадныя праблема з падачай гарачай і халоднай вады захаваецца.

**Аляксандр ГОРБАЧ.**

## Пикирует завод

**БЕРЕЗА. Хозяйственным судом Брестской области принято решение о возбуждении процедуры банкротства в отношении открытого акционерного общества "Березовский комбинат силикатных изделий".**

Из-за стабильно нестабильного состояния предприятия, из-за частого отключения энергоносителей по причине неуплаты, около 30 процентов рабочего времени цеха предприятия простаивали.

В сентябре судьба ОАО будет решена окончательно; на этот месяц запланирован детальный анализ финансово-экономического положения. Между прочим, это предприятие — единственное, обеспечивающее нужды Брестчины в извести, газосиликатных блоках, полистирола.

Временным управляющим ЗСИ суд назначил юриста Галину Дребезову.

**Любовь КРЮК.**

## Посетил колхоз...

**ПРУЖАНЫ. 26 июля район посетил президент Беларуси Александр Лукашенко.**

Президентский вертолет приземлился на одном из колхозных полей (колхоз "Рассвет"), где и произошла встреча президента с представителями местной власти, населением близлежащих деревень, тружениками "Рассвета". Президент был настроен весело, встреча прошла в обычном режиме: вопросы, ответы, отчеты, обещания...

**Юлия ТЕЛЬПУК.**

## Цырульня стала прыватнай

**ІВАЦЭВІЧЫ. З 1 жніўня самая вядомая і найбольш папулярная гарадская цырульня Івацэвіцкага КБА, размешчаная ля прывакзальнай плошчы, стала прыватнай. Скончыўся доўгі шлях пераходу калектыву на прыватныя рэйкі, майстры цяпер маюць, так бы мовіць, рыначны статус.**

Такім чынам, 7 майстраў-цырульніц мужчынскага залу і 8 — жаночага перайшлі на самастойнае жыццё. Можна не сумнявацца, што справы ў дзяўчат пойдуць не горш, чым раней: мужчынскі і жаночы залы маюць высокую рэпутацыю сярод грамадзян горада Івацэвічы, раёна, вобласці, тут працуюць майстры, якія, так бы мовіць, з'елі зубы на сваёй справе. Дарэчы, і калектыў цырульні "Маладосць" (Чарткова, 41а) рыхтуецца перайсці на самастойнае жыццё, стаць прыватнай цырульняй.

У добры шлях!

**Аляксандр ГОРБАЧ.**

## Бюджэт выконваецца,

### а грошай па-ранейшаму няма

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Як паведаміла статыстыка, раённы бюджэт па даходах за першае паўгоддзе выкананы на 100,2 працэнта, па расходах — на 99,8 працэнта. За гэты перыяд у народнагаспадарчым комплексе адзначалася так званая дадатная дынаміка развіцця асноўных галін і сфер дзейнасці.

Але чаму ж у бюджэце пастаянна не хапае грошай? Зарплата бюджэтнікам своечасова не выплачваецца, адпускныя настаўнікам выдаюцца таксама з затрымкамі. Каму ж тады верыць, што бюджэт раёна нават перапоўнены?

**Алесь САШЫН.**

# РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

**Цэны на прадуктовых рынках нашага рэгіёну па стану на 31.07.2002 г. (у руб. за адзін кілаграм)**

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны | Драгічын | Кобрын |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 3800—5800 | 3500—7000 | 3600—5800 | 3700—5500 | 3700—5500 | 3800—5800 |
| Сала салёнае | 4000—4500 | 3500—5000 | 3500—4500 | 3800—4500 | 3500—4500 | 3500—4500 |
| Алей (1 л) | 1700—2100 | 1500—2100 | 1800—2100 | 1700—2100 | 1700—2100 | 1700—2100 |
| Яйкі (1 дзяс.) | 1200—1300 | 1200—1400 | 1000—1300 | 1200 | 1000—1300 | 1000—1200 |
| Малако (3 л) | 1000 | 1200—1300 | 1000 | 1000 | 1000 | 1200 |
| Тварог | 1200 | 1000—1200 | 1200 | 1200—1400 | 1200 | 1200 |
| Бульба (малад.) | 400—600 | 400—600 | 300—600 | 300—600 | 300—600 | 300—600 |
| Масла сметанк. | 4000 | 3500—4000 | 3500—4000 | 4000 | 3500—4000 | 3500—4000 |
| Абрыкосы | 800—1000 | 800—1000 | 800—1000 | 800—1000 | 800—1000 | 700—1000 |
| Цыбуля | 700—1000 | 700—1000 | 700—1000 | 700—1000 | 700—1000 | 700—1000 |
| Агуркі | 300—400 | 300—500 | 300—350 | 300—350 | 300—350 | 300—350 |
| Морква | 700 | 600—800 | 600—800 | 600—800 | 700 | 700 |
| Памідоры | 800—900 | 800—900 | 600—700 | 700—800 | 600—800 | 600—800 |
| Селядцы | 2200—2400 | 2000—2300 | 2300—2500 | 2500 | 2300—2500 | 2300—2500 |
| Кавун | 600 | 800—700 | 800—700 | 600 | 600 | 600 |
| Грэцкія арэхі | 2600 | 2600 | 2000—2600 | 2000—2600 | 2000—2600 | 2000—2600 |
| Яблыкі | 300—400 | 400—500 | 400—500 | 300—400 | 300—400 | 300—500 |
| Капуста | 400 | 250—450 | 300—400 | 300—400 | 300—400 | 300—400 |
| Вінаград | 5500—6000 | 4500—5500 | 4500—6000 | 4500—6000 | 4500—6000 | 4500—6000 |
| Чарніцы | 800—900 | 800—1000 | 700—900 | 800—900 | 800—900 | 800—900 |
| Перац (салод.) | 1500—2000 | 1300—2000 | 1500—2000 | 1500—2000 | 1500—2000 | 1500—2000 |
| Лімоны | 1900—2200 | 2000—2200 | 2000—2200 | 2000—2200 | 2000—2200 | 2000—2200 |
| Апельсіны | 1700—1800 | 1500—1700 | 1500—1900 | 1600—1900 | 1600—2000 | 1600—2000 |
| Бананы | 1200—1600 | 1200—1600 | 1300—1600 | 1300—1600 | 1400—1600 | 1200—1600 |
| Грэчка | 600 | 540—600 | 550—600 | 550—600 | 550—600 | 550—600 |
| Макар. вырабы | 580—600 | 580—600 | 580—600 | 580—600 | 580—600 | 580—600 |
| Рыс | 700—720 | 700—720 | 700—720 | 700—720 | 700—720 | 700—720 |
| Манныя крупы | 650 | 650 | 650 | 650 | 650 | 650 |
| Проса | 480 | 400—480 | 400—480 | 480 | 400—480 | 480 |
| Цукар | 820 | 820—830 | 820 | 820 | 820 | 820 |
| Мёд | 6000—7000 | 6500—8000 | 6500—7000 | 6500—7000 | 6500—7000 | 6500—7000 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1835 | 1885 | 1830 | 1850 | 1830 | 1850 | 1830 | 1850 | 1830 | 1850 | 1830 | 1850 |
| 1 еўра | 1835 | 1870 | 1830 | 1850 | 1840 | 1870 | 1840 | 1870 | 1840 | 1870 | 1840 | 1870 |
| 1 рубель Расіі | 57 | 58 | 57 | 58 | 57 | 58 | 57 | 58 | 57 | 58 | 57 | 58 |

# ШАЛЕНСТВА КАРОЎ У КОБРЫНСКІМ РАЁНЕ

**Яшчэ адна хворая на шаленства карова была выяўлена ў статку калгаса імя Леніна Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці. Такім чынам, у гаспадарцы захварэла ўжо сем кароў.**

Цяпер у інфекцыйным аддзяленні Кобрынскай райбальніцы знаходзяцца 17 чалавек — дзевяць работнікаў калгаса, сем работнікаў мясакамбіната і работнік ветстанцыі. Яны кантактавалі з хворымі жывёламі. Урачы палічылі за неабходнае іх шпіталізаваць, хаця курс вакцынацыі можна праводзіць і амбулаторна.

Шпіталізацыя даярак выклікала пэўныя цяжкасці ў гаспадарцы. Як стала вядома БелаПАН, ніхто не хоча даіць статак фермы "Запруды", паколькі небяспека заражэння на шаленства паранейшаму ёсць, хоць кароў і вакцыніравалі. Нагадаем, што выпадак шаленства кароў — першы ў гэтым годзе ў Брэсцкай вобласці.

Валянціна КАЗЛОВІЧ. (БелаПАН).


IREX/ProMedia.

# У Белаазёрску — сальманэлёз

**Пакупка курыных яйкаў у магазіне № 9, што на праспекце Міра, кепска, у рэшце рэшт, скончылася для жыхара горада А. Клімовіча: ён аказаўся на бальнічным ложку з дыягназам "сальманэлёз".**

Загадчыца інфекцыйнага аддзялення Белаазёрскай бальніцы паведаміла, што "хворы папраўляецца" і што гэта не першы выпадак захворвання сальманэлёзам у горадзе.

А якую выснову зробяць тыя, хто адказны за якасць прадуктаў?

Інга САЎЧУК. г. Белаазёрск.

# О переносе сроков летне-осенней охоты

**Комитет лесного хозяйства при Совете Министров Республики Беларусь и Министерство природных ресурсов и охраны окружающей среды приняли распоряжение о переносе срока открытия летне-осенней охоты до особого распоряжения.**

Причина — пожарная опасность в лесах и на торфяниках, массовое возникновение пожаров.

О сроках открытия охоты по перу будет сообщено дополнительно, а охотпользователям охотничьей общественности предлагается принять активное участие в охране охотничьих угодий от возгораний и тушении возникающих пожаров.

Подготовил Александр ГОРБАЧ. г. Ивацевичи.

# Вандализм на детской площадке

**Ясли-сад № 1 "Ивушка" — один из четырёх садов городского поселка Телеханы. Осенью этого года детскому саду исполнится 55 лет. Почти каждое утро спешат сюда маленькие девочки и мальчики вместе со своими родителями. И очень часто они натыкаются на жуткую картину: как после смерча, всё кругом изломано, перевёрнуто, искалечено...**

Из года в год в летнее время местная молодежь развлекается на территории яслей-сада "Ивушка". Естественно, когда сад закрыт и нет деток. Именно этот детский сад находится в очень удобном месте для ночных посетителей: в центре посёлка, возле кинотеатра, почти рядом с главной проезжей частью. Следовательно, далеко ходить не надо: перемахнул через забор — и на месте.

О том, что происходит здесь по ночам, можно догадаться. Причем, двусмысленными догадки быть не могут, все "прелести" времяпровождения незваных гостей видны на утро следующего дня.

Неизвестные негодяи (иначе не назовешь) ломают и крошат всё, что попадается под руку: выбивают штакеты из забора (а то и полностью валят часть забора на землю), ломают скамеечки, столики, переворачивают деревянные машинки, ломают теневые навесы. Изламывают саженцы (а ведь каждый год работники детского сада пытаются озеленить его территорию), стрясают неспелые зелёные яблоки (зачем, спрашивается?). На грядках ничего не успевает вырасти: сразу же сметаются оттуда для закуски огурцы и лук. А сколько битого стекла от бутылок или разбитых окон остаётся! А на следующий день здесь бегают дети! И это еще не всё. Эти, скажем так, некультурные люди умудряются справлять нужду на детской веранде (а ведь два туалета находятся буквально в нескольких шагах). Это же вандализм, только в применении к детскому игровому оборудованию!

Сколько же сил и нервов приходится тратить заведующей Анне Меречко на то, чтобы всё восстановить! А денег на постройку забора и оборудования нет. Вот и приходится "латать" из имеющегося материала. Правда, в этом году во время ремонта детского сада по просьбе заведующей родители детей помогли отремонтировать поломанное.

Что самое обидное, нет никакой управы на таких выродков. Заведующая "Ивушки" не раз выступала на исполкомах с просьбой увеличить часы работы сторожа. Но денег на это ни в поссовете, ни в районе нет. Недавно после очередного погрома она обратилась в отделение милиции с просьбой найти виновных и заставить их ремонтировать самим то, что сломали. Но и милиция бессильна: то ли не может, то ли не хочет помочь "бедной" Анне Ивановне. Интересно, на что же тогда способны наши милиционеры, если они даже подростков за хулиганство наказать не могут?

Пока такие "вандалы" не будут наказаны, детки по утрам будут собирать после них окурки, пробки, битое стекло; не любоваться им истоптанными клумбами с вырванными цветами, играть в изгаженной веранде, не смогут "ездить" в покорёженных машинках, не будут кушать спелых яблок и огурчиков...

Юлия СТЭМП. г. п. Телеханы.

# Сравните!

**Информация облсельхозпрода об урожайности зерновых и зернобобовых культур в районах области на 29 июля 2002 года**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Ивановский | 33,4 | **9. Кобринский** | **27,9** |
| 2. Ляховичский | 33,3 | 10-11. Лунинецкий | 26,6 |
| **3-4. Барановичский** | **30,6** | 10-11. Малоритский | 26,6 |
| 3-4. Брестский | 30,6 | 12. Жабинковский | 25,1 |
| **5. Дрогичинский** | **30,4** | 13. Ганцевичский | 24,7 |
| **6. Березовский** | **28,9** | **14-15. Ивацевичский** | **23,5** |
| 7. Столинский | 28,5 | **14-15. Пружанский** | **23,5** |
| 8. Пинский | 28,3 | 16. Каменецкий | 23,3 |

# Ахова падвяла

Склад Баранавіцкай зверагаспадаркі меў сігналізацыю, але яе не пабаяліся начныя злодзеі.

Яны разабралі дах склада і залезлі ў памяшканне і скралі адтуль больш як 900 шкурак норкі і лісы. Гаспадарцы нанесены значныя страты. Яны склалі суму звыш 30 мільёнаў рублёў. Вось цяпер і думаюць пацярпеўшыя: якой ахове лепш давярацу.

Кастусь ДЗЯМЧУК. г. Баранавічы.

# Хто ж вінаваты
## ў затрымцы зарплаты і дапамог?

**Гаворка ідзе пра бюджэтную сферу. Па стану на 1 ліпеня гэтага года запазычанасць прадпрыемстваў раёна бюджэту па плацяжах склала 1263,5 мільёна рублёў, з яе ў бюджэт раёна — 614,5 мільёна рублёў.**

Самую вялікую запазычанасць у бюджэт дапусцілі ААТ "Івацэвічдрэў" (кіраўнік Б. М. Міхнюк) — 292,4 мільёна рублёў, УПП "Івацэвіцкі лесгрампрас" (кіраўнік М. В. Радзеня) — 162,9 мільёна рублёў, ААТ "Івацэвіцкі льнозавод" (кіраўнік С. А. Русакевіч) — 136,7 мільёна рублёў, РУЛП "Целяханы" (кіраўнік Г. Я. Курцыгаў) — 120,8 мільёна рублёў.

У ліку даўжнікоў таксама КУП "Даманаўскі ПТК", РУП "Выпраўленчая ўстанова № 5", ААТ "Івацэвіцкі райсельгастэхніка", РУП "Целяханскі ЗСВ".

Словам, даўжнікі вядомыя. Толькі невядома адно: калі яны разлічацца з бюджэтам? Яшчэ за чэрвень не ў поўным аб'ёме выплачана зарплата работнікам бюджэтнай сферы па іх віне.

Алесь САШЫН. г. Івацэвічы.

# Калгасы не дапамагаюць
## сваім пенсіянерам утрымліваць жывёлу

**Гэта не жарт, а сённяшняя рэальнасць. Калгасы не могуць ужо дапамагчы сваім былым работнікам, а зараз нямоглым людзям, пенсіянерам кармамі для ўласнай жывёлы. Вядома, што не кожны стары чалавек можа самастойна касіць траву, зграбаць яе, а тым больш прывезці на свой падворак.**

Напрыклад, у калгасе "Быценскі" кіраўніцтва гаспадаркі рэкамендуе тым жа старым браць у рукі косы або клікаць на дапамогу сваіх гарадскіх дзяцей. Нечага ім, маўляў, толькі за салам прыязджаць да бацькоў.

Такое становішча не толькі ў "Быценскім", але і ў многіх гаспадарках раёна. Калгасы самі ледзьледзь спраўляюцца са сваімі сезоннымі работамі, маюць запазычанасць па зарплаце, а тая, што выплачваецца, вельмі мізэрная.

Які ж выхад са становішча, што склалася? У пенсіянераў — адзін выхад. Яны збываюць сваіх цялушак. Нездарма колькасць кароў у вяскоўцаў штогод змяншаецца. І гэты адмоўны працэс пакуль што не ўдаецца спыніць.

Кастусь ДЗЯМЧУК. г. Івацэвічы.

# Летнія свавольствы дзяцей

**Лета — вольны час для дзяцей і, разам з тым, сезон пажараў ад дзіцячага свавольства з агнём. Значную колькасць вогненных здарэнняў улетку ўчыняюць дзеці, прывезеныя да сваіх бабуль і дзядуль з розных рэгіёнаў рэспублікі і блізкага замежжа.**

Амаль апоўдні зашугала полымя пажару на сядзібе пенсіянеркі з в. Рудня Быценскага сельсавета Ніны Фёдараўны Шыбко. Агонь знішчыў невялікую капічку сена, пашкодзіў дашчаны гаспадарчы хлеў. Менавіта такім аказаўся рэзультат гульні з запалкамі ўнука гаспадыні Паўла Чыпрова, 1989 г. н., які прыехаў да бабулі на лета з Мурманска. Добра вядома, што папярэдзіць свавольства дзяцей з агнём можна з дапамогай розных формаў і метадаў навучання правільнаму, асцярожнаму абыходжанню з агнём. Добрыя вынікі дае конкурс юных знаўцаў пажарнай справы, які праводзіцца сярод вучняў пачатковай школы. Днямі такое спаборніцтва было праведзена ў летнім аздараўленчым лагеры "Дубравушка". Спаборнічалі дзве каманды дзяцей-дзесяцігодак — "СОС" і "Агеньчык". Капітанам адной з каманд быў абраны хлопчык з Мінску. У конкурсе капітанаў ён яўна ўступаў свайму Івацэвіцкаму саперніку, бо зусім не ведаў ні колькасці ступеняў апёкаў, ні іх прызнакаў, ні тое, што лічыцца эвакуацыйным шляхам. Усе гэтыя пытанні цалкам адпавядалі ўзросту пройдзенай вучэбнай праграмы. Такія адказы капітана, вядома ж, пацягнулі каманду далёка назад. Але гэта была толькі гульня. У жыцці ўсё куды складаней, і адказы на гэтыя і аналагічныя пытанні могуць аказацца сапраўды жыццёва важнымі. Таму дзяцей мерам пажарнай засцярогі трэба вучыць пастаянна і ў школе, і дома. У наш час бясконцых экстрэмальных сітуацый такія веды вельмі патрэбныя і карысныя.

Валерый МОЛАШ. Івацэвіцкі раён.

# Загінуў пад коламі цягніка

Гэта здарылася ў мінулую сераду, раніцай. А. В. Борыс, 1983 года нараджэння, жыхар г. Івацэвічы, перабягаў чыгуначныя пуці на станцыі райцэнтра ў неўстаноўленым месцы (насупраць пякарні), папаў пад грузавы цягнік і загінуў. Такая дарагая цана ўласнай неасцярожнасці і парушэння правілаў пераходу чыгуначных пуцей.

Сяргей СЛАВІНСКІ. г. Івацэвічы.

# ЯК ПРАХОДЗІЦЬ "БІТВА ЗА ЎРАДЖАЙ" У СУСЕДЗЯЎ?

## Распусціўшы калгасы яшчэ ў пачатку 90-х, Літва, Расія ды Украіна ўжо пачалі адчуваць плён ад рэформы сваіх сельскіх гаспадарак

**Знайсці ў расійскай і ўкраінскай прэсе матэрыялы пра збор ураджаю даволі складана. Інфармацыйнае поле гэтых дзяржаваў запоўнена іншымі навінамі і паведамленнямі. Прэзідэнт Расіі не аблятае на верталёце поле "бітвы за ўраджай", кіраўнік Украіны не праводзіць сялектарныя нарады на ўборачныя тэмы.**

У суседзяў Беларусі калгасна-саўгасная сістэмы даўно не існуе. Пра тое, калі і як адбываліся рэформы ў сельскай гаспадарцы Расіі і Украіны, нагадвае карэспандэнт расійскай газеты "Крестьянские ведомости" Анатоль Гуляеў:

— Рэформы на Украіне і ў Расіі адбыліся прыкладна ў адзін час — 1991-92 год. Былі разбураны дастаткова хутка калгасы і саўгасы. На Украіне, напрыклад, вельмі добра папрацавалі эканамісты, і было распрацавана 18 арганізацыйна-прававых формаў сельскай гаспадаркі. У прыватнай сялянскай гаспадарцы ты атрымліваеш пэўную колькасць зямлі, якая вызначаная законам, і працуеш на ёй, як хочаш.

Далі селяніну магчымасць арганізоўвацца, як ён сам хоча. Хочаш адзін — калі ласка, хочаш з суседам, вуліцай у вёсцы, усёй вёскай — калі ласка. Ад саматужнага селяніна да ўнітарнага прадпрыемства, да буйнога землеўласніка — кожны можа выбіраць сабе форму ўласнасці, якую хоча.

Сваю частку зямлі ў Расіі і Украіне атрымалі ўсе былыя калгаснікі. Калі нехта не мае сілаў альбо жадання нешта вырошчваць на сваім кавалку, то ён мае магчымасць здаць зямлю ў арэнду — і атрымаць пэўны прыбытак.

Якія ж вынікі прынесла рэфармаванне сельскай гаспадаркі? Зразумела, што першыя пераходныя гады былі не вельмі лёгкімі. Аднак ужо ў канцы 90-х рэформы далі плён. Лічбы гавораць самі за сябе. Разняволўшы селяніна, Расія зноў, як і ў дакамуністычны час, прадае хлеб іншым краінам.



IREX/ProMedia.

Усё на месцы; не хапае толькі сялектарнай нарады.

Напрыклад, летась Расія сабрала 83 мільёны тонаў збожжа і забяспечыла сабе месца ў дзясятцы ўсясветных экспарцёраў зерня. Ураджайнасць мінулага года рэкордная за апошнія 40 гадоў. На Украіне летась затраты на сяўбу знізіліся ў два разы, а Еўрасаюз пастанаўляе закрыць свой рынак ад наплыву таннага ўкраінскага зерня. У цэлым шляхі рэфармавання сельскай гаспадаркі суседзяў Беларусі можна падсумаваць наступнай фразай Анатоля Гуляева: "Агульны накірунак такі — гэтак званай "калектыўнай уласнасці" нідзе няма".

**Радыё "Свабода".**

# Уздым ці дасягненне?

**Гэта не рытарычнае пытанне, а вялікая цікаўнасць у адносінах да паказчыкаў работы прамысловасці Івацэвіцкага раёна ў першым паўгоддзі бягучага года. У дадзеных раённага аддзела статыстыкі ідзе супастаўленне выпушчанай прадукцыі да паказчыкаў адпаведнага перыяду мінулага года.**

Выходзіць, калі звыш ста працэнтаў да мінулагодняга, то, можна лічыць, што прадпрыемства працуе рэнтабельна, атрымлівае прыбытак. Мне здаецца, што гэта знешняя прывабнасць, якая не заўсёды адпавядае рэчаіснасці.

Праілюструем гэтую думку на канкрэтным прыкладзе. Летась у першым паўгоддзі "Рэспубліканскім унітарным вытворчым прадпрыемствам "Папрачуая ўстанова №5" было выпушчана таварнай прадукцыі і тавараў народнага спажывання адпаведна на 63,1 і 47, 1 працэнта да першага паўгоддзя 2000 года. Сёлета паказчыкі ў гэтай установе 143,1 і 116,6 працэнта да мінулагодняга. Вось і ламай галаву: гэта ўздым ці дасягненне? Планавага паказчыка, як бачым, няма, да якога б суадносілі свае поспехі ці няўдачы прамыславікі. Раўняюцца па году мінуламу. А калі той год няўдалы, як у нашым прыкладзе? Тады як? Каго б я не пытаў, усе разводзяць рукамі. Маўляў, усё ідзе ў грашовым вылічэнні. Але ж цана прадукцыі і ў сувязі з гэтым зарплата штомесячна мяняюцца. Як усё правільна палічыць і падлічыць і зрабіць такі вывад, які б адпавядаў сапраўднаму стану спраў на вытворчасці? Аказваецца, не проста.

Так, таварнай прадукцыі выпушчана прамысловасцю раёна за паўгоддзе да мінулагодняга на 103,2 працэнта, тавараў народнага ўжытку — на 106,8 працэнта. Летась гэтыя паказчыкі былі адпаведна 100,5 і 91,2 працэнта. Таму прыходзіцца гадаць: гэта выпуск тавараў з плюсам ці з мінусам, ёсць зрух у лепшы бок ці не? Як мне здаецца, тут больш пытанняў, чым адказаў. А так хочацца, каб такіх пытанняў было з кожным годам усё менш.

**Кастусь ДЗЯМЧУК.**
**г. Івацэвічы.**

# Израильское посольство в Беларуси будет закрыто

**Стало известно, что МИД Израиля все-таки принял решение о закрытии своего посольства в Беларуси.**

В понедельник в нашу страну прилетел первый заместитель генерального директора МИД Израиля Давид Пелег. По официальной версии, для проведения межмидовских консультаций. На самом деле причина визита такого высокопоставленного гостя — объяснить белорусской стороне причину решения израильских властей.

Напомню, что с предложением о закрытии 4 посольств и 4 консульств за рубежом неделю назад выступил министр иностранных дел Израиля Шимон Перес. Глава внешнеполитического ведомства Израиля отметил, что закрытие ряда дипломатических служб позволит сократить статью расходов Израиля. В число 8 стран попала и Беларусь.

В Минске Давид Пелег отметил, что закрытие посольства Израиля в Беларуси не имеет никаких политических мотивов, на такой шаг Израиль пошел из чисто экономических соображений.

Пока неизвестно, останется ли в Беларуси консульское представительство Израиля, как после закрытия посольства жители нашей страны смогут получать визы для визита в эту страну. В МИД Беларуси говорят, что как раз эти вопросы сейчас и обсуждаются.

Пресс-секретарь МИД Беларуси Павел Латушко отметил, что белорусская сторона "не планирует закрывать белорусское посольство в Израиле".

**"Народная воля".**

# Далучэнне Польшчы да Еўрасаюза

## можа быць карысным для польска-беларускіх адносін

**Напярэдадні ў Варшаве адбылася сустрэча беларускіх і польскіх экспертаў, прысвечаная перспектывам двухбаковых гаспадарчых адносін па далучэнні Польшчы да Еўрапейскага Саюза. Пра тое, як будуць выглядаць гаспадарчыя адносіны Польшчы і Беларусі пасля 1 студзеня 2004 года, а таксама пра тое, як яны выглядаюць зараз, наш варшаўскі карэспандэнт размаўляе з дырэктарам Дэпартамента знешнеэканамічных адносін Міністэрства гаспадаркі Польшчы сп. Тадэўшам Ліскам.**

Галоўнымі тэмамі размоваў з членамі беларускай дэлегацыі, у якую уваходзілі прадстаўнікі міністэрства замежных справаў, эканомікі, а таксама некалькіх беларускіх прадпрыемстваў, былі ў асноўным тэхнічныя пытанні: далейшая рэалізацыя амаль двух дзясяткаў польска-беларускіх гандлёвых дамоўленасцяў і фармальны выгляд міждзяржаўных эканамічных стасункаў па далучэнні Польшчы да Еўрасаюза, памеры мытных пошлін, а таксама пытанні, звязаныя з увядзеннем візавага рэжыму. Паводле ўдзельніка перамоваў з польскага боку, дырэктара Дэпартамента знешнеэканамічных адносін Міністэрства гаспадаркі Польшчы спадара Тадэўша Ліска, нягледзячы на тое, што частку міждзяржаўных гандлёвых дамоваў трэба будзе прыстасаваць да еўрапейскіх стандартаў, увогуле далучэнне Польшчы да Еўрасаюза будзе карыснае для польска-беларускіх гандлёвых стасункаў. Гаворыць Тадэўш Лісэк:

— Па-першае, па далучэнні Польшчы да Еўрасаюза на нашай мяжы панізіцца мытная пошліна, бо ў Еўрасаюзе яна ніжэйшая, чым цяпер у Польшчы. Па-другое, на беларускі экспарт будзе распаўсюджвацца генеральная сістэма прэферэнцыяў, а, па-трэцяе, сам факт уваходу беларускіх тавараў на польскі рынак будзе аўтаматычна азначаць тое, што гэтыя тавары змогуць свабодна вандраваць па ўсёй тэрыторыі Еўрасаюза без дадатковых фармальнасцяў. Канечне, гэта будзе і пэўным выпрабаваннем для беларускіх экспарцёраў — беларускія тавары мусяць быць канкурэнтаздольнымі.

Мы будзем часткай адзінага гаспадарчага абшару Еўрасаюза і мусім мець такія самыя мытныя пошліны, як і ўсе астатнія краіны Аб'яднанай Еўропы. Аднак па пашырэнні Еўрасаюз будзе ўжо іншым, і, магчыма, гэтыя антыдэмпінгавыя сродкі трэба будзе пераглядаць. Можа ў новым, пашыраным, Еўрасаюзе яны ўжо не спатрэбяцца.

Калі мы гаворым пра гаспадарчыя адносіны, дык перадусім маем на ўвазе гандаль. І тут Беларусь ёсць вельмі важнай для нас. Сярод асабліва малых і сярэдніх прадпрыемстваў ёсць вялікае зацікаўленне ў гандлі з Беларуссю. Мы будзем рабіць усё магчымае, каб спрасціць польскім фірмам экспарт у Беларусь. Што да прысутнасці польскага капіталу ў Беларусі, дык паводле нашых падлікаў, там працуе каля 250 польска-беларускіх гандлёва-вытворчых прадпрыемстваў, а каля сотні прадпрыемстваў заснаваныя выключна з удзелам польскага капіталу. Летась, паводле гэтых паказчыкаў, мы былі ў Беларусі на трэцім месцы пасля Нямеччыны і Злучаных Штатаў. Канечне, польскі капітал пакуль невялікі, каля 15 мільёнаў даляраў.

Спадар Лісэк дадаў таксама, што Польшча вельмі зацікаўлена ў далучэнні Беларусі да Усясветнай гандлёвай арганізацыі, бо гэта выклікала б паніжэнне беларускай мытнай пошліны для польскіх тавараў.

**Радыё "Свабода".**




# ВОЛЬНЫ РЭГІЁН



# НА КОНУ

## уже который год находится судьба спортивных лошадей в г. Берёза

**Конный спорт сегодня, наряду с морскими парусными регатами, гольфом, спортивными танцами и большим теннисом, входит в число пяти элитарнейших видов спорта. Кому хоть раз в жизни не хотелось промчаться на коне по бескрайним лугам?! Ветер свистит в волосах, ты сливаешься с лошадью и летишь, ощущая её силу и грациозность. Что может сравниться с радостью такого полёта?! "Несбыточная мечта", — скажете вы. Но почему же? Мечта может быть совсем рядом — "Отделение конного спорта ДЮСШ ОФП профкома ПРУП "Берёзастройматериалы", в дальнейшем, из-за сложности названия, — просто школа.**

### ЗАНЯТИЯ

**Татьяна Леонтьевна Пунько, тренер:**

— Я работаю в этой школе с 1999-го года. Лошадей люблю с самого детства, поэтому работа нравится. Закончила Витебскую академию по специальности "Ветеринария". Опыт верховой езды — до академии пять лет занятий в Ревятичах в конноспортивной школе.

Основное направление нашей школы — конкур. Дети принимаются на обучение верховой езде, начиная с 10-летнего возраста и старше, т.е. это ученики 4-11 классов. Желательно, чтобы дети были рослые, потому что им самостоятельно придётся одевать на лошадь седло, уздечку и т.д. Сейчас в конно-спортивной школе занимаются более 30 ребят из Берёзы. В первый год они обучаются сидеть на лошади, держаться в седле и даже прыгать через небольшие препятствия.

**— Насколько сложно и опасно заниматься?**

— И сложно, и опасно. Лошадь — живое существо. С ним нужно обращаться деликатно и, в то же время, где надо, показать силу, уверенность, не дать почувствовать, что ты слабее или боишься. По этой причине лошади часто не слушаются малых детей. Лошадь и на ноги наступает, может иногда укусить. Поэтому требуется соблюдать технику безопасности. Занимаются у нас дети, которым это нравится, которых не пугает то, что седло тяжёлое, а кони высокие. Каких-то тяжёлых травм у нас не было.

**— Дети сами ухаживают за лошадьми?**

— У нас есть конюхи. Если надо почистить лошадь, искупать — это делают сами ребята и с большим удовольствием.

**— Есть какие-то заметные достижения?**

— Есть. Например, в 2000 г. Саша Копчейко на Фабуле на областных соревнованиях, которые проводились у нас в Берёзе, занял 1-е место.

**— Сложно выдрессировать лошадь?**

— Требуется много труда. Каждое движение повторяется сотни раз, чтобы лошадь его усвоила. На всё надо время.

**— Насколько сложно научиться ездить на лошади?**

— Всё зависит от желания человека. Если оно есть, то, как бы сложно ни было, — он научится. Есть такие, кто думает, что это очень красиво и вместе с тем легко. Ничего подобного — здесь надо приложить труд и старание. Лошадь — существо живое, у неё своя реакция на человека, своя оценка. Перечислю немногое из того, чему надо научиться: седлать лошадь, одевать уздечку, чистить лошадь, правильно садиться в седло, сидеть в нём, держать осанку, ездить учебной рысью, облегчённой рысью, галопом, следить, чтобы лошадь шла с правильной ноги и т.д.

**— Лошади у вас, конечно, породистые?**

— У нас четыре ездовые лошади Тракененской породы. Это полукровная порода, выведенная в 18-м веке в немецком государственном Тракененском конном заводе путём скрещивания местных лошадей с чистокровными верховыми, арабскими и некоторыми другими. Характер тракенов — уравновешенный, это самые неагрессивные и доброправные лошади, они спокойны, хорошо поддаются дрессировке.

Каждая из наших лошадей имеет свои особенности. Липица помешана с литовскими лошадьми. Троянда — помесь с будённовскими. Она немного с характером. Фабула — чистокровная тракена. Интеллигентная. Дали хлеба — хорошо, не дали — требовать не будет. Виола — наполовину Орловская. Спокойная, но очень хитрая. Сначала съест соседское сено, а потом уже примется за своё. Не дашь хлеба — будет бить ногами в дверь.



Оля Токарь управляется с лошадью Виолой как заправская амазонка.

### ПРОБЛЕМЫ

**Николай Тихонович Трутько, директор:**

— Наша школа создана в 1997 г. Тогда за бюджетные деньги района были куплены четыре спортивных лошади и десять сёдел. На это ушла сумма, в пересчёте на доллары равная примерно 5000$. Была выделена старая конюшня, сёдельная и необорудованное конкурное поле. Хозяина у этой школы с момента её существования было два: племзавод "Луч" (ему принадлежали лошади и недвижимость) и предприятие "Берёзастройматериалы". В этой двойственности с самого начала уже были заложены наши сегодняшние проблемы.

На данный момент в профсоюзном конном спорте я не вижу юридической базы. Наша ДЮСШ финансируется по линии профсоюзов агропромышленного комплекса через Республиканский фонд социальной защиты и, как все бюджетные организации, по остаточному принципу. В этом году на каждую школу был открыт спецсчёт. Но я, как директор, не имею права им распоряжаться. Распоряжается председатель профкома. Это одна проблема.

После того, как открыли спецсчёт, деньги, хотя и с задержкой, поступают регулярно. Но деньги на соревнования и т.д. нужно искать у "доброго дядьки". Если нашли его и уговорили — что-то имеем, в противном случае — нет, т.е. принцип здесь — "живи как хочешь". Профсоюзы на свой баланс базу брать не хотят. Зачем им лишние расходы? Сёдельное снаряжение, уздечки, подпруги, шапочки-жокейки, без которых не допускают к соревнованиям, — всё это изнашивается. Например, жокейка в Польше стоит 15$. Но мы не можем перевести туда деньги. А в Беларуси перекупщики требуют за неё уже 50 $.

Следующая проблема. В 1997 г., когда создали эту школу, в придачу к коням и снаряжению обещались ещё и новая конюшня, и манеж. Но бюджет "треснул". Хотя и лошади, и конюшня принадлежат племзаводу "Луч", часть старой конюшни вынужден был отремонтировать завод. Но сейчас на заводе реконструкция и с него взять нечего, с колхоза — тоже. А нам надо ремонтировать и другую часть конюшни, чтобы отсадить в неё молодняк от маток. Затем, где брать корма? Обеспечивать лошадей кормами обязан был "Луч", но в связи с бедственным положением он этого не делал. Приходилось искать корма самим. В прошлом году мы вышли из положения за счёт продажи 4-х выбракованных лошадей. И то это благодаря новому руководителю "Луча" А.В. Флорьяновичу, который начал поднимать хозяйство.

В обычных школах есть директор, завуч, завхоз, а я здесь — в одном лице. За всем не успеешь. Сейчас ситуация такова, что директор и тренер должны быть ещё и зоотехниками, добывать и привозить корма. Нечем привезти из лесу 20 кубов жердей, подсеять траву. Хорошо ещё, по линии профсоюза АПК с 1 апреля 2001 г. введены три штатных единицы техперсонала. Подобрать людей на эти должности — тоже проблема. Идут, как правило, люди, осознающие, что периодически у них в руках будет рабочая лошадь, и, к тому же, любители выпить.

### ВОЗМОЖНЫЙ ВЫХОД

— Как выжить школе? Вот четыре возможных варианта. Первый — платные услуги населению. Рабочих лошадей у нас осенью изъял "Луч", сейчас осталась всего одна рабочая лошадь. Если оказывать услуги на ней, то потребуется платить налоги, платить зарплату рабочему. В итоге, прибыли — ноль.

Второй — прокат лошадей. Но для этого у нас нет нужного их количества. Наши лошади, на которых занимаются дети, спокойные, ручные. А в прокате из-за частой смены "хозяев" животные становятся неуравновешенными, задёрганными. Поэтому надо ждать, пока вырастут молодые лошади.

Третий вариант — платное обучение. Но опять — нет лошадей.

Четвёртый — заниматься разведением и содержанием лошадей. За каждого родившегося жеребёнка полагается дотация, кроме того мы могли бы продавать животных. Нам бы голов 20 — и наша школа успешно бы развивалась. Но это возможно, если "Луч" пойдёт на увеличение поголовья. Сейчас у нас своих одиннадцать лошадей: четыре взрослых, остальной молодняк. На следующий год сможем седлать уже 7-8 лошадей.

### ТУРНИРЫ И ПЕРСПЕКТИВЫ

В этом году первенства области по конкуру, видимо, не будет — нет денег. Да и в целом конный спорт в Беларуси переживает сегодня не лучшие времена. Сейчас в Брестской области остались лишь спортшкола в д. Огаревичи (Ганцевичский р-н), наша и Брестское областное госплемпредприятие. Есть ещё увлечённый человек в Кобрине, у него своя лошадь, но он специализируется на коммерческих турнирах.

Выезд на конкур — дорогое удовольствие. Нанять коневозку в Брест, например, в прошлом году стоило 170 тысяч рублей. По этой причине мы так и не смогли поехать в Гомель на республиканский турнир.

**— Перспективы?**

— В большой степени судьба школы зависит уже не от нас, а от того, какое отношение будет к конному спорту. Наших проблем никто не видит, мы считаемся иждивенцами и дармоедами. Кони никого не интересуют, коровы — это молоко, прибыль, а кони — это "с жиру бесятся", аристократический вид спорта.

В любом случае учебная спортшкола должна заниматься учебно-тренировочной и воспитательной работой, а не заготовкой кормов, ремонтом конюшен и т.д. Сейчас же, чтобы обеспечить лошадей на зиму кормами (а это порядка 20 т сена, 10 т соломы, овёс), мы закупаем их за свои средства, т.е. идём на неправильное расходование выделяемых бюджетных денег. Другого выхода нет. А дальнейшая судьба нашей секции всецело зависит от племзавода "Луч". Если у директора А.В. Флорьяновича получится осуществить задуманное (а я думаю, что да!) — укрепить хозяйство и развить коневодство — проблем с секцией быть не должно.

**Полосу подготовил Николай СИНКЕВИЧ, фото автора.**

# "ДУБРАВУШКА" СЁННЯ

## Фотарэпартаж з летняга дзіцячага аздараўленчага лагера...

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.)

XXX

Адпачынак дзяцей у лагеры — гэта цэлы комплекс розных мерапрыемстваў, якімі займаецца калектыў. Сюды ўваходзяць культурна-масавыя, спартыўныя, аздараўленчыя. Праводзяцца дыскатэкі, тэматычныя вечары, конкурсы. Працуюць розныя гурткі, якімі кіруюць самі выхавальнікі. Так што сумаваць дзецям, па сутнасці, няма часу. Іх вольныя гадзіны заняты карыснымі для іх жа саміх справамі. Да таго ж, у кожным корпусе ёсць тэлевізар.

У лагеры арганізавана выстава работ саміх дзяцей. Гэта вышыўка, лепка, аплікацыя. Мяне зацікавілі работы Мікалая Кляўцэвіча з вёскі Падстарынь Івацэвіцкага раёна.

— Тут, у лагеры, — гаворыць старшая выхавальніца Зоя Уладзіміраўна Дзянісік, — мы, можна сказаць, адкрылі самадзейнага скульптара. Паглядзіце на яго работы, і вы самі ўпэўніцеся ў гэтым. Ёсць талент у хлопчыка.

— А яшчэ ён добра спявае, — уступае ў размову музычны кіраўнік Сяргей Аляксандравіч Сіманчук. — З захапленнем выконвае песні з рэпертуара групы "Рукі ўгору". Так што шмат у нас таленавітых дзяцей...

XXX

Было б няправільна, калі не сказаць аб некаторых праблемах, што хвалююць работнікаў лагера. Першае — гэта тэлефанізацыя. Дзецям, як правіла, званяць бацькі; дзеці, у сваю чаргу, тэлефануюць дадому. Без гэтага не абысціся.

— У нас, вось паглядзіце, — гаворыць бухгалтар Н. І. Бянасік, — да дзесятка няспраўных тэлефонных апаратаў. Мы не паспяваем рамантаваць. А бацькі і дзеці нярвуюцца, што не могуць пагаварыць між сабой.

Які ж выхад з гэтага становішча? Кіраўніцтва лагера прапаноўвала сувязістам устанавіць на тэрыторыі "Дубравушкі" тэлефон-аўтамат. Купіў тэлефонную картку — і размаўляй сабе на здароўе. Бацькі дзяцей згаджаюцца купляць такія карткі. Аднак сувязісты (начальнік Дарагакупец) запатрабавалі за ўстаноўку такога тэлефона каля 700 тысяч рублёў.

— У нас такіх грошай няма, — сказаў мне старшыня райкома прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплекса упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Івацэвіцкага райвыканкама Міхаіл Аляксеевіч Качан, у чыім распараджэнні знаходзіцца лагер "Дубравушка". — Таму пытанне ўстаноўкі тэлефона-аўтамата пакуль што не вырашана...

Яшчэ другая праблема хвалюе работнікаў "Дубравушкі".

— Справа ў тым, — гаворыць начальнік лагера С. В. Чэлнакоў, — што да дзяцей, якія адпачываюць, пастаянна прыязджаюць сябры і сяброўкі. І большасць з іх хоча застацца начаваць. Гэтага мы не можам дазволіць, бо не ведаем, у якім санітарным стане гэтыя госці. Вось і прыходзіцца змагацца. Прыязджаюць нават і тыя, хто адпачываў тут раней, і просяць, каб узялі іх у лагер. Вядома, без пуцёўкі мы не можам прыняць нікога...

XXX

Нягледзячы на некаторыя праблемы і няўвязкі, водгукі пра "Дубравушку" самыя добрыя — і дарослых, і дзяцей. Аляксей Курцэвіч з г. Івацэвічы адпачываў у лагеры ў першай змене і, пакідаючы яго, запісаў у лагернай кнізе водгукаў свае ўражанні ў вершаванай форме. Вось некалькі радкоў з таго запісу:

И все занятия интересны,
Они летней продуманы порой,
Что вечно помнить лагерь будем,
И эту смену не забудем...
И всё это долго будет сниться мне...

Андрэй Дударук (чацвёрты атрад), што адпачываў у першай змене, так запісаў: "Мне вельмі спадабаўся першы месяц канікул. Я правёў яго ў летнім аздараўленчым лагеры "Дубравушка". У лагеры кожны дзень гуляў у футбол, валейбол, тэніс... Мне вельмі спадабаўся адпачынак у лагеры..."

"Нікому не хацелася ехаць дамоў, — піша Юля Нікалайчук. — Усе рабяты былі вельмі дружнымі. Нас вельмі смачна кармілі... Весела ляцелі дні... На наступны год я абавязкова прыеду сюды зноў".

— У "Дубравушцы" я ўжо чацвёрты раз, — сказала мне Наташа Цімашэвіч з Івацэвіч, якая ў трэцяй змене. — Мне тут вельмі падабаецца. Я яшчэ сюды абавязкова прыеду...

Словам, "Дубравушка" жыве сваім жыццём, напоўнена вясёлымі дзіцячымі галасамі. Хай яны звіняць і не змаўкаюць. Усё лета. Светлае і незабыўнае.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**
**Фота аўтара.**
**Івацэвіцкі раён.**



**Наташа Цімашэвіч: "Я зноў прыеду ў "Дубравушку".**



**Мнагалюдна ў сталовай лагера "Дубравушка" ў час абеду.**



**На футбольным полі юныя спартсмены.**



**Выстава работ юнага скульптара Мікалая Кляўцэвіча.**

## 26 собак

### зарегистрировано в Ивацевичах за 2 года

**Хоть их, конечно, гораздо больше. Около двух лет тому назад райисполком выпустил постановление, согласно которому все собаки, что "проживают" в г. Ивацевичи, должны быть зарегистрированы в соответствующих службах.**

Первый четырёхногий друг в городе был зафиксирован 6 декабря 2000 года. А за 2002 год только 11 хозяев пожелали зафиксировать своих питомцев.

Как сообщили "Газете для вас" в Ивацевичском ремонтно-эксплуатационном строительном предприятии, регистрируются только породистые собаки — овчарки, доги. За регистрацию (паспорт и жетон) необходимо заплатить 1300 рублей, а далее ежемесячно, вместе с квартплатой, высчитывается 10 процентов от минимальной заработной платы. Кстати, собаки, которых хозяева содержат в частном секторе, должны быть только зарегистрированы (их хозяева должны получить паспорт и жетон за 1300 рублей), но ежемесячная плата с них не взимается. Но это только в том случае, если собака на подворье одна; за вторую, третью (и т. д.) надо ежемесячно платить в установленном порядке.

По мнению работников РЭСПа, общее количество собак, находящихся в городе, гораздо выше того количества, которое зарегистрировано.

**Александр МИХАЛЕНКО.**
**г. Ивацевичи.**

## Этот доллар не задушишь, не убьёшь

**Одной из главных тем (и политических, и экономических) сегодня стала тема стремительного роста евро и относительного "топтания" доллара.**

**Действительно ли сейчас имеет место начало конца американской валюты?**

— Пока мы не можем однозначно сказать, что американская валюта потеряла интерес у наших сограждан, — сообщила "Газете для вас" **Татьяна Петровна СУХОНОСИК, управляющая отделением ОАО "Белагропромбанк" (г. Ивацевичи).** — Наши клиенты покупают и евро, и доллары. К тому же, согласно неофициальных данных, руководство Беларуси не очень заинтересовано в падении доллара, Национальный банк проводит активные финансовые интервенции для того, чтобы спрос на евро не носил ажиотажного характера.

Но, между прочем, — продолжила Татьяна Петровна, — мы оказываем услуги в размещении вкладов (в белорусских рублях) под более высокие процентные ставки, чем другие банки. Наших клиентов заинтересовали и срочный вклад на 21 день под 50% годовых, на 35 дней под 45% годовых, на 60 дней — 40%, "летний": на 45 дней — 42%, экспресс: на 15-30 дней — 46%, "урожайный": на 45 дней — 44%, пенсионный (до востребования) — 30% годовых.

Присоединяйтесь!

**Александр ГОРБАЧ.**
**г. Ивацевичи.**

## Диагностика — на уровне Евросистемы

**Два месяца тому в г. Кобрине открыт пункт технической диагностики транспортных средств на уровне Евросистемы — пока единственный в Брестской области. Цель техосмотра — получение "сертификата" на право участия в дорожном движении.**

Чтобы быть допущенным на техосмотр, надо подготовить пакет нижеследующих документов: справка о прослушанном курсе лекций шестичасовой программы, свидетельство обязательного страхования гражданской ответственности, справка медицинского освидетельствования, техпаспорт на транспортное средство и квитанция из Сбербанка за техосмотр.

Евросистему с новейшим компьютером обслуживают оператор и два инспектора.

Основной упор диагностики, таким образом, ставится на контроль тормозной системы и рулевого управления: отдельно передняя ось, стояночный тормоз, задняя ось, дымность.

Не забыт и внешний вид авто: не даётся "добро" на деформированный и ржавый кузов. Не пройдёте осмотр без наличия знака аварийной остановки, аптечки, огнетушителя, неисправных поворотов и габаритов, даже отсутствия брызговиков. С "лысой" резиной тоже не рискуйте.

Штрафы внушительные для нарушителей, вплоть до изъятия номерных знаков и водительских удостоверений.

В Кобрине за неполных три месяца "добро" получили 900 авто, 19 тысяч пока выжидает.

На очереди такие Евросистемы в Ивацевичах, Дрогичине, Берёзе, Барановичах.

А пока за опытом приезжайте к нам.

**Нина МАРЧУК.**
**г. Кобрин.**



# Надзеі і трывогі Яраслава Пархуты

(Працяг. Пачатак у № 23, 24, 25, 26, 27, 28, 29, 30).

## V. ПАЛЕСКІ РАБІНЗОН

●

З усяе радні, што засталася ў вёсцы, Іван больш за ўсё хіліўся да Волькі. На 41-м годзе жыцця ў лесе часцей заходзіў толькі да яе. Глядзеў тэлевізар, а спярша баяўся, нават з хаты, бывала, уцякаў. Здзіўляцца нечага: чалавек бег ад людской цывілізацыі. Даведаўся, што памёр Брэжнеў, нядоўгі час кіраваў Андропаў. Асаблівым даверам Іван пранікся да Гарбачова. Таму перабраўся з урочышча Хралёва, з-за струг, бліжэй да сяла. Вярнуўся ўжо з турмы Павел, праўда, слабы, спрацаваны.

Пачалі гаварыць у вёсцы пра Бушылу, пра таго Палкоўніка, што столькі гадоў шукалі.

Расказваў стары бастынец: "А я не веру, што тады плялі пра Бушылу і яго родзічаў... Аднойчы прыязджае следчы і просіць у аднаго нашага мужыка: "Грамадзянін, давай так дамовімся. Мы ноччу "прыцiснем" твайго парсючка, з сабою забяром (грошы вернем), а па галоску пусцім, што гэта справа Бушылаў і іхняга шваґра Зылевіча". Пайсці на такое той чалавек не мог, наадрэз адмовіўся крывадушнічаць, грэх на душу браць... Калі шчыра сказаць, то і зараз не верыцца, што Бушыла з Зылевічам "узялі" Малабоpскі магазін. Тадышні прадавец Сталярчук Мікалай — не прасыхаў ад гарэлкі. Ён мог і пайсці на ўгаворы начальства".

Словам, па-рознаму гаварылі бастынцы, але сыходзіліся на адным: Бушылы — сумленныя людзі.

●

Праз 42 гады ляснога жыцця Іван Бушыла паявіўся сярод бастынцаў. Гэта быў ужо стары чалавек, каля 70 гадоў. Яго ўжо называлі дзедам. Гэта наваіна абляцела літаральна ўвесь былы Савецкі Саюз. Неверагодна, у савецкі час, у гады будаўніцтва развітога сацыялізму, чалавек хаваўся ад праследавання энкэвэдэшнікаў, бадай, усё пасляваеннае жыццё. Хацелася глянуць на такога чалавека, пазайздросціць яго нечалавечай цярпімасці і вытрымцы, яго сілы волі, калі прыходзілася перамагаць самыя неймаверныя цяжкасці.

Памерці ад холаду і голаду ці стаць вечным вязнем ГУЛАГа? Аддаць сябе згаі ваўкоў ці здацца органам улады?

Таму невыпадкова аповесць Яраслава Пархуты назвалі кнігай-споведдзю, кнігай-дакументам, кнігай-абвінавачваннем не толькі органаў улады, але і самой улады. Аб гэтым сведчаць таксама водгукі чытачоў аб праўдзівай, незвычайнай кнізе і яго герoі.

"Вы адказалі ўсім катам, — піша Мая Быкава з Масквы, — які разумны і моцны наш чалавек. Ганарымся вамі. Дзякуем!"

А вось што піша былы аўтаматчык, разведчык 118-й стралковай дывізіі Анастас Кічык: "Не ведаю, як вы ўспрымеце мае словы, але я праклінаю той час, з-за якога вы прынялі такія пакуты. Маю на ўвазе сталінскі час, час панавання вылюдкаў, якія адпраўлялі нас у ГУЛАГі".

Іван Бушыла застаўся ў роднай вёсцы Бастынь. Нікуды не паехаў. Яму прызначылі пенсію. Ён вярнуўся да людзей. Назаўсёды.

●

Зусім нядаўна я зрабіў паездку ў вёску Бастынь Лунінецкага раёна. Карцела пабачыць тыя мясціны, дзе нарадзіўся і жыў Іван Васільевіч Бушыла, герой аповесці "Адзінец", сустрэцца з Бушылавымі родзічамі і тымі вяскоўцамі, якія ведалі палескага рабінзона. Думалася знайсці хоць нейкія дакументы Івана Бушылы, яго фотаздымкі. Ён жа ваяваў, меў баявыя ўзнагароды.

У Паўла Паўлавіча Гілевіча, пляменніка Івана Бушылы, не аказалася ніводнага здымка маладога ягонага дзядзькі. Затое захаваліся здымкі Іванавых братоў, а таксама ўжо старога Бушылы.



Іван Бушыла пасля выхаду з лесу (1989 г.).

З горыччу апавядаў Павел Паўлавіч пра Івана Бушылу, аб тым, як ён хаваўся ў лесе ад праследавання энкэвэдэшнікаў. Гэта ведалі многія вяскоўцы. Крыўдна тое, што яго зрабілі бандытам, бульбашом, рабаўніком. Словам, навешалі на яго шмат грахоў, да якіх ён не меў ніякага дачынення. Большасць жыхароў Бастыні не верыла гэтаму, і ў першую чаргу родзічы, з якімі Іван Бушыла хоць не часта, але сустракаўся, у тым ліку і з Гілевічам.

Пасля выхаду з лесу, працягваў расказ Гілевіч, Іван Бушыла жыў у ягонай хаце, спярша ў вялікай, а потым у меншай, у сцёпцы, як тут кажуць, што стаяла побач. Адвык ён жыць разам з людзьмі. Бацькаву старую хату, якая ўжо сама абвальвалася, Іван Васільевіч раскідаў. Там зараз пустое месца. Толькі пладовыя дрэвы, што засталіся, нагадваюць аб былым селішчы.

Пабываў я і ў тым лесе, дзе хаваўся Бушыла. Сапраўды, гэта амаль некранутае Палессе, дзе круглы год не высыхае балота.

Наведаўся я і да Волькі, пляменніцы Івана Бушылы. Але мне не пашанцавала. Яна якраз захварэла і знаходзілася ў бальніцы.

●

— Іван Васільевіч з цяжкасцю прывыкаў да новага жыцця, — успамінаў П. П. Гілевіч. — Пасля некалькі дзён пасля выхаду з лесу захварэў на запаленне лёгкіх. Вылечылі. Да дамашняй ежы таксама не мог доўга прывыкнуць, а ў хаце Бушылу проста не хапала паветра.



Волька, пляменніца Івана Бушылы.

— У 1995 годзе Іван Васільевіч зноў папаў у бальніцу, — зазначыў П. П. Гілевіч. — Выявілі язву страўніка, зрабілі аперацыю, выразалі частку страўніка. Неўзабаве ён вярнуўся дахаты. Дактары сказалі яму, каб еў патрошкі і часцей. Аднойчы не разлічыў і наеўся ўдосталь бульбы таўчонай, швы разышліся, і дактары ўжо не змаглі яго выратаваць. Шкода. Яшчэ і цяпераka мог бы жыць...

Пахаваны Іван Васільевіч Бушыла на Бастынскіх могілках. Яго магіла знаходзіцца побач з бацькавай і матчынай. Сціплая агароджа, крыж. Старонні чалавек, які б хацеў наведаць магілу гэтага незвычайнага чалавека, без дапамогі родзічаў, вядома, не знайшоў бы яе.

Праявіў цікавасць да майго прыезду ў Бастынь, аказаў мне дапамогу ў сустрэчы з родзічамі Івана Бушылы, пазнаёміў з памятнымі мясцінамі вёскі старшыня выканкама Бастынскага сельсавета Фёдар Міхайлавіч Рашэцкі. Вялікі дзякуй яму за гэта.

Жыццё Івана Васільевіча Бушылы, можна сказаць без перабольшвання, — унікальнае. Пра яго напісана дакументальная аповесць "Адзінец" Яраславам Пархутай. Гэта жывы, хвалюючы матэрыял пра чалавека вялікай сілы волі, які не скарыўся, не здаўся ўладам, якія сталі пагражаць яму, а потым імкнуліся знайсці і арыштаваць, і, вядома, пасадзіць за турэмныя краты. Не спаймалі. Затое адыграліся на яго родзічах і асудзілі, як быццам за сувязь з "ворагам" народа.



Хата, у якой жыў Іван Бушыла пасля выхаду з лесу.

●

У вёсцы Бастынь ёсць сярэдняя школа. Гутару з яе дырэктарам Сцяпанам Васільевічам Бусько. Называю прозвішча ўдзельніка мінулай вайны Івана Васільевіча Бушылы.

— Які гэта Бушыла? — адразу перапытаў ён. — Той, што ў лесе хаваўся? Так, помню, у часопісе трохі чытаў. У школе пра яго нічога няма. Трэба людзей спытаць. Справа ў тым, што да Бушылы ў нашай вёсцы дваякія адносіны...

— Дык ён жа — ахвяра сталінізму, а затым і камуністычнага рэжыму. Да таго ж Бушыла рэабілітаваны, — хачу пераканаць дырэктара школы.

Сцяпан Васільевіч як быццам згаджаецца, але ж матэрыялаў пра Бушылу ніхто не збіраў. Нават аповесць "Адзінец" у школе засталася забытай. Гэта пацвердзіў і настаўнік роднай мовы і літаратуры Сяргей Мікалаевіч Лышчык.

Крыўдна чуць такое ад вясковых асветнікаў. Напісаны дакументальны мастацкі твор пра іх земляка, пра іншых вяскоўцаў, над якімі чынілі здзекі, пра стварэнне мясцовага калгаса "Шлях Леніна". Дарэчы, і сёння гэтая гаспадарка носіць тую ж назву, ідучы па-ранейшаму "ленінскім" шляхам.

Як сказалі мне бастынцы, Іван Бушыла, калі вярнуўся з фронта, быў малады, высокі, стройны, да твару ішла яму ваенная форма. На грудзях блішчэлі баявыя ўзнагароды. Былы салдат марыў пра мірнае жыццё на роднай зямлі, хацеў пабудаваць свой дом.



Магіла Івана Бушылы ў в. Бастынь.

●

У тыя пасляваенныя гады, калі за Бушылам "палявалі" энкэвэдэшнікі, яны ж забралі ў хаце бацькі ўсе дакументы і ўзнагароды былога салдата, нічога не пакінулі. Пасля роспытаў у людзей я імкнуўся знайсці хаця б фотаздымак Івана Бушылы маладых гадоў. Здымкі "ворага" народа бясследна зніклі.

Я паспрабаваў даведацца што-кольвечы пра дакументы Бушылы ў Лунінецкім аддзяленні камітэта дзяржбяспекі. Там адказалі, што ў іх няма ніякіх дакументаў І. В. Бушылы і параілі звярнуцца ва Упраўленне камітэта дзяржбяспекі Рэспублікі Беларусь па Брэсцкай вобласці, якое знаходзіцца ў Брэсце.

Спярша быў тэлефонны званок у Брэст. На другім канцы провада адказалі, што не патрэбна ехаць да іх, а даслаць пісьмовую заяву. Гэта было зроблена. Праз тры тыдні атрымаў адказ з Брэста. У ім паведамлялася, што "сярод архіўных матэрыялаў Упраўлення КДБ па Брэсцкай вобласці дакументы і фота Бушылы І. В. адсутнічаюць".

Успаміны родных Івана Бушылы, сведчаць аб тым, што ў чэрвені 1947 года ён, малады і прыгожы, як і яго браты, у многім быў падобны на свайго бацьку Васіля Бушылу. Лёс Івана, як бачым, склаўся зусім незвычайна, і, як ён паўтараў, што не па сваёй віне. Такая праўда пра жыццё палескага рабінзона.

## VI. ПАМЯЦІ — ЖЫЦЬ

У кнізе Яраслава Пархуты "Зямля бацькоў нашых" у навеле "Чужой бяды не бывае" аўтар расказаў пра калгаснага шафёра, які цаной свайго жыцця выратаваў і камбайн, і спелую збажыну. У Ілчанскай школе, дзе вучыўся Анатоль, са стэнда на прысутных пазірае добрымі вачыма малады хлопец у белай кашулі. А пад партрэтам змешчаны вершаваныя радкі:

Чтоб стать
мужчиной —
Мало им родиться,
Ты должен
переплавиться,
Разбиться
И, как руда,
Пожертвовать собой.
Готовность к смерти —
Тоже ведь оружие.
И ты его однажды
примени...
Мужчины умирают,
Если нужно,
И потому живут
В веках они.

Мне думаецца, што, прачытаўшы гэтыя радкі, міжвольна ўспамінаеш самога Яраслава Пархуту. Штосьці падобнае здаралася з ім. Яго прага да жыцця, жыццялюбства былі проста зайздроснымі.

— Ты мяне яшчэ рана хаваеш, — казаў не раз з усмешкай Ніне Міхайлаўне, сваёй жонцы, Яраслаў Сільвестравіч. — Я ўсё паспею зрабіць. Не журыся, дарагая...

А журыцца прыходзілася, і даволі часта.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**
г. Івацэвічы.

**(Заканчэнне будзе).**

# ГОРЫ І ЛЮДЗІ

(ЭСЭ)

...І толькі праз пэўны час ты заўважаеш, што людзі тут жывуць зусім інакш. Яны нетаропка ходзяць у горы і павольна вяртаюцца назад. А тыя вясёлыя песні і заліхвацкія скокі, якія паказваюць па тэлебачанні, толькі нязначная, і, напэўна, не самая галоўная частка іх жыцця. Яны вельмі любяць упрыгожваць свой дом звонку. Нават тады, калі не хапае сродкаў, каб нешта зрабіць у сярэдзіне.

Ты тут — чужы. І калі кабета з трыма маленькімі дзецьмі ля падола пытаецца ў цябе, ці не страшна плысці па такой бурлівай рацэ, ты адказваеш, што не страшна, хаця, калі пакласці руку на сэрца, трошачкі страшнавата. Падлеткі расказваюць табе, што недзе ў лесе, праўда, далёка, ёсць дзівоснае возера, а ў гарах яшчэ можна сустрэць мядзведзя, і яшчэ водзяцца тут ваўкі.

Потым ты доўга і цяжка ідзеш напрасткі да вяршыні, а ўзышоўшы на самую макаўку, раптам заўважаеш там сляды каня і чалавека. І ў наступны раз ты крочыш па серпанцінавай сцяжынцы, пратаптанай невядома кім. Але ж з аднаго боку гэтай сцежкі амаль заўсёды — бездань, і ў цябе зноў не вельмі вялікі выбар. А можа ты проста вельмі стары для гор?..

Ты лезеш усё вышэй і вышэй. Туды, дзе падпіраюць неба таўшчэзныя вязы, дзе і зараз, у траўні, светла шапацiць пад нагамі іх леташняя лістота. І як добра прытуліцца да шматвекавога дрэва і дабраць згубленую па дарозе энергію!

Ты ідзеш, і да ног тваіх лашчацца фіялетавыя пралесачкі, якія растуць па дзве-тры на адной сцяблінe. Ім, напэўна, сумна жыць так высока ў адзіноце...

Далёка-далёка ты бачыш УСЕ горы. І прыжмурваеш вочы, калі глядзіш на заснежаныя вяршыні. І ўспамінаеш, як дзень ці два таму ты быў на адной з іх, самай высокай, і павольна ставіў нагу на такі бялюткі снег, які, калі праваліўся, дасягаў амаль да пояса. Нават сёння, у такі, здаецца, цёплы дзень, калі сонца хаваецца за хмарку, адтуль цягне холадам, і ты шкадуеш, што не захапіў з сабою пухавік.

Потым ты спускаешся ўніз. Ты паслізгваешся на схілах і доўга ідзеш рэчышчамі ручаін. Раптам ты заўважаеш, што даўно ўжо шыбуеш не ў той бок. Але недзе далёка-далёка гамоніць аб сваім рака, і ты пачынаеш спадзявацца, што ўрэшце рэшт яна падкажа табе напрамак.

І толькі ўнізе, на дарозе, ты адкідваеш убок непатрэбны ўжо кій і хаваеш пад кашулю нож.

**Алесь БЕЛЫ.**
**г. Баранавічы.**

# Глуханямая істота

Паветра застыла
Тугім халадцом.
Ноч не бывае вострай.
Дазволена была
Бегчы ўздагон,
Каб толькі набрацца моцы.
На крыж красавік
Дабравольна залез
І мусіў сканаць бясконца.
Імгненне, другое,
і трэці цвік
Утоп у бетонным сонцы.
І нельга ісці —
Надалей і паўсюдна
Не бачна...
нічога не бачна...
У гэтым жыцці
Нудотна і нудна,
Ды страшна,
заўсёды страшна.
Паветра застыла
Тугім халадцом.
Ноч не бывае вострай.
Дзень падавіўся
Іржавым цвіком —
Проста схаваўся
ад монстраў.
На белай пасцелі
Дарожка крыві...
Ці гэта была гарбатка?
— Пазбаўся ад хмелю,
Краіна! Жыві!..

...Усё, адабралі асадку.

**Юлія ЦЕЛЬПУК.**
**г. Пружаны.**

# Фантазия

Такое дождливое
лето, —
Земля напоилась водой.
Такое туманное утро, —
Манит сезон грибной.
Мы весело лесом бежали,
Нас белки пытались
догнать.
Мы в чаще густой
обнимались,
Где писк комаров не унять.
Ты ягоды мне на ладони
К губам моим нежно поднес,
Склонились к земле
даже сосны, —
Они выражали восторг...
Поляна цветы нам дарила,
И пчелам работа была.
Грибы я из рук уронила,
Когда целовал ты меня...

**Елена ПОЗНЯК.**
**г. Береза.**

# Обращение

Вечереет, так хочется воздуха чистого,
Полной грудью дышать до зари,
И услышать во тьме соловья голосистого,
Боже, этот час ты мне подари.

Подари ты нам блага земные,
Отведи, забери всё назад.
Нам ведь жить, мы ведь люди живые,
Не гони наши души ты в ад.

**Александр ВАКУЛА.**
**д. Хомск Дрогичинского района.**

ДЭБЮТ

# Роздум

Чаму жыву на свеце я?
Чаму хаджу,
смяюся, бачу?
Чаму не здолею змяніць
Таго, што я зрабіў інačай.
Гляджу ў люстэрка
на сябе,
Гляджу і бачу прад сабою
Не той, не той,
змяніўся твар,
І вочы сталі нат суровей.
Хаджу па беразе ракі
І бачу, як сціраюць хвалі
Мае сляды, мае сляды...
А хвалі зноў шумяць
І зноў бягуць удалеч.

**Дзмітрый МАКАРЭВІЧ.**
**г. Івацэвічы.**

# Любимый

Я отдам тебе сердце, только будь ты со мной,
Лишь скажи мне без лести, что навеки я твой.
Я отдам тебе ночи, я отдам свет луны,
Только тихо промолви: "О тебе мои сны..."
Я отдам тебе день, я отдам солнца свет,
Только крикни погромче, что меня лучше нет.

XXX

Я так хочу, чтоб ты сама
Смогла понять, что для меня
Дороже не было и нет:
Ты для меня — цветов букет,
Ты — летний дождь, что жизнь несет,
Ты — песня птиц, звезды полёт...

**Анатолий РАИЦКИЙ.**
**г. Береза.**

# Чытаючы Анатоля Вярцінскага

*"Якое надвор'е на двары?*
*Якія вецер, дождж і сонца?"*

Якое надвор'е на душы?
З боку якога вецер?
Мае на ўвеце ледзяшы
Подых ягоны ці квецень?
Якое надвор'е на душы?
Ветрана ці не дужа?
Пагодліва
ці ідуць дажджы?
Завітвае ж дождж
і ў душы...
Якое надвор'е на душы?
Як там, смужна ды сонна,
Ці на абсягах яе ляжыць
Пячатка высокага сонца?

**Ніна МАЦЯШ.**
**г. Белаазёрск.**

# Радзіма

Радзіма...
Усім патрэбна гэта слова,
Усім патрэбна і яна сама.
Прыгожая
маёй Радзімы мова —
Завецца беларускаю яна.
Радзіма — гэта тое,
што мы бачым,
Радзіма — гэта тое,
што мы любім.
Нічога без Радзімы
мы не значым,
Мы разам з ёй жывём,
расцём, працуем.
Над родным краем
лётае жураўчык,
Над мілым краем
цёплы ветрык вее,
І сонца, як вялікі
жоўты мячык.
Яно ўсіх нас
і ў люты холад грэе...

**Таня ВАСІЛЕЎСКАЯ.**
**г. Косава.**

Удалеч позірк скіраваны —
Перада мной лясы, лугі...
Я сэрцам з імі зітаваны.
Край любы мой і дарагі.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**

# Цветы

Они прекрасны вечером и днем,
Под жарким солнцем и даже под дождем.
Их дарят девушкам, любимым, матерям,
В вагон бросают отъезжающим друзьям.
И нежность в этих милых лепестках
Ты держишь в собственных руках.
Они напомнят встречи с синеглазой,
И как дрожала полная слеза,
И тот перрон, с которого прощались,
И грустные любимые глаза...

Но я цветы не очень обожаю,
Прости, что и тебе их не дарил.
Они так быстро в своей вазе вянут,
Что не заметишь, кто их загубил?
Потом уже о них не вспоминают,
Безжалостно забытых лепестках,
Но память шевелят и будоражат
Слова, дрожащие однажды на губах...

**Виктор БОРЗУН.**
**г. Берёза.**

# Не плачь

Не плачь, я прошу тебя, плакать не надо, родная.
Пусть жизнь нелегка,
пусть порой наша жизнь нелегка.
Не я виноват, что не так получилось, ты знаешь!
Не я от тебя — это ты от меня далека.

Не плачь, я прошу тебя, только не плачь, дорогая!
Я струны порву, чтоб не слышать чужое "прости"!
Чтоб слезы не видеть твои, что из глаз убегают
И руку встречают мою у себя на пути.

Ничем, никогда, ни за что не встревожу я память!
А если письмо напишу, то сейчас же порву.
Не плачь, моя милая, не позволяй себе плакать!
А если заплачешь — не я твои слезы утру.

...Зачем я прошу, чтоб не плакала?
Ты не заплачешь.
Я знаю, душа не взорвется, слезами звеня!
Прощай, я желаю тебе и добра, и удачи.
Вся жизнь твоя светлая, чистая, но без меня...

**Юрий ГОРБАЧЕВ.**
**д. Ходаки Ивацевичского района.**

# Душа

**Памяти Жени Янищиц.**

Ах, душа!
Без тебя нет и строчки.
Разболелась,
разнылась слегка.
Вот уже повзрослели
две дочки,
А меня что-то гложет
тоска.
Жизнь моя —
это дивная сказка.
Каждый день —
поединок со злом;
Но боюсь,
что наступит развязка,
Не узнаю,
что будет потом...

**Елена ДУНЬКОВИЧ.**
**г. Дрогичин.**

# Холодный дом

Утро. Холод.
Стоит холодный дом.
Боль, страх и ужас
Поселились в нем.
Холодные стены.
Стеклянные двери.
И от хлада сердец
Прямо заледенели.
Хозяева боли
В тех стенах живут,
И холоден в доме том
Ихний приют.
А в нём дети плачут.
В нем дети кричат.
Хозяева дома молчат же,
Молчат...
Любовь? Или нежность?
Она ледяна.
А может поддержка?
Замерзла она.
...Лишь капельки льда
На холодном окне,
Как детские слёзы,
Дрожат на стекле...

**Алёна ПОДСАДНАЯ.**
**г. Ивацевичи.**

# Прошу тебя, осень

Прощанье.
Чувств половодье.
Уставший лист клёна
Прилёг на перроне.
Роняет золото осень.
Богачка хохочет,
Богачка рыдает.
Багрянцем одарит,
Дождинкой помочит.
Платок под ноги бросит
Нарядный, цветастый.
Ах, душу ненастьем
Не рань, прошу, осень.
Что ей мои просьбы
Чудачке, царице?!
А поезд уж мчится,
Моё сердце уносит.
Нет мочи. Нет силы.
Продрогший лист клёна
Взметнулся с перрона.
Куда же, куда ты, милый?!

**Нина ЧИКИТА.**
**г. Ивацевичи.**

Старонку падрыхтаваў Святаслаў КАЖАДУБ.

# Рэклама, віншаванні

## СЕРДЕЧНО ПОЗДРАВЛЯЕМ!

*От всей души поздравляем с днем рождения Марию Владимировну ГРУШИК из г. Ивацевичи.*
*Пусть здоровье, счастье, радость*
*С вами дружат каждый час.*
*Пусть тяжелые ненастья*
*Стороной обходят вас.*
*Пусть не старят вас года,*
*Пусть не трогает беда,*
*Пусть природа вам подарит*
*Жизнь на долгие года.*

*С любовью и уважением — сын Гена, невестка Лена и внук Слава.*



*Сердечно поздравляем с 40-летием дорогого брата и дядю Виктора Иосифовича ТАРАСЕВИЧА из д. Нарутовичи Березовского р-на. От всей души желаем молодости долгой, огня, душевной теплоты! Здоровья, радости, веселья и исполнения мечты. Желаем также тебе успеха и верных преданных друзей, большого счастья в личной жизни и честно пройденных путей.*

*Семья Степанович.*



*Дорогую, любимую жену, мамочку и невестку Наталью Александровну ШВЕД из г. Коссово Ивацевичского р-на горячо и сердечно поздравляем с днем рождения.*
*Пусть этот день — не шумный праздник,*
*Не красный день в календаре,*
*Но он счастливый и прекрасный —*
*Ты появилась на земле.*
*И мы сердечно поздравляем*
*Тебя с таким чудесным днем,*
*И от души тебе желаем*
*Здоровья, радости во всем.*
*Пусть, родная, твоя душа будет всегда полна добра и любви, пусть жизнь подарит тебе новые силы и будет долгой и счастливой.*

*Любящие тебя муж, сын, свекор, свекровь.*



*Чудесную, прекрасную женщину Ольгу Ивановну ЯНКОВСКУЮ из г. Ивацевичи искренне поздравляю с днем рождения. Здоровья тебе, дорогая, оптимизма, неиссякаемой энергии и благополучия в жизни.*
*Счастливой будь, неповторимой,*
*Всегда люби и будь любимой,*
*Пускай всегда растут цветы*
*И праздник будет там, где ты!*

*Ирина Васильевна Лущик.*



*Дорогую и любимую Ольгу ШИМЧУК из г. Белоозерск поздравляем с днем рождения. Большого счастья, крепкого здоровья, хорошего настроения и успехов во всем.*

*Муж, дочери, зятья и внуки.*



*Сердечно поздравляем с 40-летием Николая Александровича ДЫЛЮКА из д. Холопья Ивацевичского р-на. Желаем крепкого здоровья, счастья, пусть сбудутся все твои мечты. Всего тебе самого наилучшего.*

*С уважением — сестра Валентина и ее семья.*



## ПРОДАЮТСЯ

### РАЗНОЕ

☞ Драпач+сошка, пр-во Польша. Тел в г. Ивацевичи (8-245) 2-37-10.

☞ Новые ульи (дадан). Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-37-10.

☞ Пчелы с ульями. Тел в г. Ивацевичи (8-245) 2-37-10.

☞ Новый цветной телевизор "LG", русское меню, 2AV входа, игровая функция, защита от детей, гарантия 12 мес., доставка, цена 310000 руб. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-55-95.

☞ Холодильник-морозильник "Атлант-Стинол", цветная модель, новый. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-12-68 (после 18.00).

☞ Линолеум, плитка половая, соковыжималка. Тел. в г. Береза (8-243) 2-05-10.

☞ Велосипед новый горный, 18 скоростей, Польша, цена 160 000 руб. Тел. в г. Белоозёрск (8-243) 4-08-39.

☞ Кролики, возраст 2 мес, цена договорная. Обращаться: г. Коссово, ул. Советская, 19. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 32-8-05 (после 19.00).

☞ Аппарат для сбивания картофельной ботвы перед уборкой, монтируется на навеске трактора, привод от ВОМ. Тел. в Дрогичинском р-не (8-244) 7-46-28.

☞ Косилка к мотоблоку, новая. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-43-17.

☞ Жеребенок, 10 месяцев. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 38-5-58.

☞ Велотренажер немецкий "Марс", цена договорная. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-70-42.

☞ Строительные и отделочные материалы, пр-во РП, дешево. Тел. в г. Береза (8-243) 52-2-12.

☞ Газонокосилка, бензопила шведская с запчастями. Тел. в г. Слониме (8-01562) 2-97-57.

☞ CD-плейер "GRUNDIG" с блоком питания и наушниками, антишок, супербас, б/у. Тел. в Березовском р-не (8-243) 62-3-89.

☞ Коляска детская, закрытая, импортная, б/у. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-83-22 (вечером).

☞ Стенка, б/у, состояние нормальное, цена — 160 у. е. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-16-11.

☞ Фанера, 50 листов; картон чемоданный, 200 листов. Тел. 8-0296-34-73-76.

☞ Швейная машина "PFAFF" 441-R-755/03, роликовая, с приводом на ролик. Шьет по коже, 1 шт, б/у. Тел. в г. Белоозерск (8-243) 29-5-78.

☞ Картофелекопалка длинная лидская, 2000 г. в., отличное состояние, цена 800 у. е.. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 32-9-25 или 8-029-633-29-25.

☞ Автостекла новые, а также др. автозапчасти. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-23-77 (с 10.00 до 17.00), 8-0266562108 (круглосуточно).

☞ Картофелекопалка 2-рядная, тракторная. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-61-41 (с 21.00 до 23.00).

☞ Памперсы для взрослых; резина R14, б/у, недорого. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 42-1-13.

☞ Картофелекопалка, 550 у. е., двухкорпусный плуг, 150 у. е. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-70-46 (вечером), 35-2-34.

### НЕДВИЖИМОСТЬ

☞ Дом в д. Гичицы Ивацевичского р-на, есть участок 75 соток, кирпичная летняя кухня, сад, хозпостройки, телефон. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-86-87.

☞ Дом в д. Огородники Березовского р-на, есть природный газ, 28 соток, хозпостройки. Тел. в г. Береза (8-243) 4-92-46.

☞ Дом в г. Береза , два этажа, два входа, природный газ, 122 м², все хозпостройки, гараж, сад, огород, 9000 у. е. или обменяю на 1-комнатную квартиру с доплатой. Тел. в г. Береза (8-243) 4-94-24.

☞ Деревянный сруб 12.40х9.40, крытый новым шифером. Половая доска и материалы на столярку. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-31-80 (после 18.00).

☞ Дом в г. Ивацевичи, в центре. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-47-49, в г. Молодечно 8-01773-33-0-20.

☞ Дом в д. Озерцо Ивацевичского р-на, имеется кирпичный гараж, кирпичная летняя кухня, 59 соток земли, сад, хозпостройки, колодец. Цена умеренная. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 47-3-78.

☞ Дом в д. Стороживщина Ивацевичского р-на, цена договорная. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-62-04.

☞ Жилой дом в д. Ярцевичи Березовского р-на, 2 км от г. Белоозерск, печное отопление, летняя кухня, хозпостройки, земельный участок 0,35 га. Тел. в Березовском р-не (8-243) 50-1-39; 50-2-36.

☞ 3-комнатная квартира в г. Ивацевичи. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-23-38 (после 20.00).

☞ Неоконченный дом в д. Холопья Ивацевичского р-на, имеется участок 6 соток, гараж, сарай, столярка. Обращаться: г. Ивацевичи, ул. Заводская, 36-2.

### АВТО-МОТО, ЗАПЧАСТИ

☞ "ГАЗ-52" (грузовая), 1986 года, цена договорная. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-12-53.

☞ Двигатель "Д-240 МТЗ" 1-й комплектности, требующий кап. ремонта, цена 55 у. е. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 33-7-29, 33-3-42 (спросить Сашу).

☞ Прицеп к л/а "Невядов", полная масса 1400 кг, 1998 г. в. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-55-66 или 2-72-34.

☞ "Фольксваген-Пассат", 1989 г. в., 2,0 бензин, инжектор, г/у, ц/з, автосигнализация "Аллигатор", 5-КПП. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 52-7-42.

☞ Срочно! "Ауди-80", 1980 г. в., 1,6D, хорошее состояние, 1000 у. е., торг при осмотре. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-68-20.

☞ "Газ-69" по запчастям, с документами. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-17-34.

☞ "Рено-19", 1991 г. в., 1,7 Б, цвет красный, 1700 у. е., торг уместен. Тел. в г. Береза (8-243) 4-25-92.

☞ "ВАЗ-21063", 1987 г. в., "Москвич-2140", на запчасти. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-51-23 (после 21.00).

☞ "Ауди-100", дизель, состояние отличное, цена договорная. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-68-02.

☞ "Опель-Кадетт-Караван" 1,6, 1986 г. в., дизель, с неисправным двигателем, дешево. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 42-5-92 (утром, вечером).

☞ "Форд-Мондео", 1993 г. в., сентябрь, бензин, универсал, из Германии, без пробега по РБ, гидроусилитель, подушка безопасности, корректор фар и т. д. Тел. в г. Белоозерск (8-243) 29-5-78.

☞ Рем. комплекты газового оборудования автомобилей. Тел. в г. Пружаны (8-232) 2-32-70.

☞ Головка блока с распредвалом в сборе, "Ауди", "Фольксваген" 1,6, бензин. Тел. в г. Береза (8-243) 4-40-92 (вечером).

☞ "Форд-Сиерра", 1988 г. в., 2,3Д, универсал, красный, 1500 у. е.. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-44-43.

☞ Мотоцикл "МТ-9 Днепр", 1973 г. в., в раб. сост., цена 50 у. е. Тел. в г. Береза (8-243) 2-58-40.

☞ "Гольф-2", ноябрь 1991 г. в., расстаможенный, только из Германии. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-59-75.

☞ Прицепное устройство на "Фольксваген", "Мазда". Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-12-68 (после 18.00).

☞ "МВ-123", 1982 г. в., 264 тыс. км., хорошее состояние двигателя, ходовой, новая резина, шуба. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-53-23.

☞ "Ауди-80", 1982 г. в., 1,8 бензин, белая, в хор. сост., R-14, люк, 840 у. е. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-13-05.

☞ Автомобиль "Ниссан-Премьера", 1994 г. в., 1,6Б, цвет вишня металлик, ц/з, кондиционер, хэтчбэк. Тел в г. Слоним (8-015-62) 4-27-45.

☞ "Опель-Кадетт", 1985—86 г. в., 1,6Д, 3-дверный, люк, фаркоп, автомагнитола, новый аккумулятор, сост. очень хорошее. Тел. в г. Береза (8-243) 2-47-24.

☞ "Хундай-Лантра", 1992 г. в., электропакет, гидроусилитель руля, люк, стереосистема, 2300 у. е., торг при осмотре. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-36-87 (после 17.00).

☞ Прицеп-дача, можно под торговую точку, цена договорная, или сдам в аренду. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-32-11.

☞ Мотоцикл "Минск", на запчасти. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-36-87 (после 17.00).

☞ "МВ-207D", длинный, низкий, после капремонта или обменяю на л/а+доплата, рассмотрю все предложения. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-27-63.

☞ "Мерседес-123", 1982 г. в., 2,4 дизель, белый, в хорошем состоянии, г/у руля, люк, фаркоп. Тел. в г. Белоозерск (8-243) 2-61-32.

☞ "ВАЗ-2101", 1979 г. в., 650 у. е., сост. хорошее, тех. осмотр 2003 г., страховка, тонировка стекол, музыка, фаркоп, пробег 150 т. км. Тел. в г. Белоозерск (8-243) 4-05-18.

☞ "Опель-Кадетт", "капля", 1985 г. в., 1,3 бензин, 5л. на 100, в хор. сост., цена 850 у. е., торг уместен. Обращаться: Ивацевичский р-н, д. Воля, д. 80а, кв. 4 (Сергей).

☞ "КамАЗ 5511", самосвал, в хорошем рабочем состоянии, лодка аллюминиевая "Южанка". Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 32-1-38.

## КУПЛЮ

☞ Прицеп к л/а. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-44-43.

☞ Лошадь, жеребенка. Тел. в г. Белоозерск (8-243) 28-0-44.

☞ Иномарку в аварийном или неисправном состоянии. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 32-1-38.

☞ Грибы "Веселка", свежие или сушеные. Тел. в г. Белоозерск (8-243) 4-04-55, 59-0-95.

☞ 2-комнатную квартиру. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 58-2-15.

☞ Двери к лобатому "МАЗ", КПП с н/з можно в обмен на старую. Тел. в г. Береза (8-243) 57-3-83, 2-21-26.

☞ 2-комнатную квартиру в г. Ивацевичи. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-86-31.

☞ Агрегат окрасочный высокого давления "Вагнер-7000". Тел. 8-029-633-57-30, 8-0232-55-57-70.

☞ Плиты перекрытия (4,2). Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-88-53 (спросить Татьяну).

☞ Кузов б/у (непереваренный) для автомобиля "ВАЗ-2101". Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-24-87 (после 18.00).

## МЕНЯЮ

☞ 4-комнатную квартиру в г. Коссово Ивацевичского р-на на две 1-комнатные или на две "малосемейки", любые варианты. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 32-5-70 или 32-4-62 (звонить после 22.00).

☞ 2-комнатную неприватизированную квартиру в г. Белоозёрск на 1-комнатную с доплатой или на две 1-комнатные. Тел. в Березовском р-не (8-243) 4-08-19.

☞ 2-комнатную квартиру в г. Ивацевичи на 1-комнатную с доплатой. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-65-37.

☞ 3-комнатную квартиру на две 1-комнатные или 1-комнатную с доплатой. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-37-19, 2-18-07.

## СДАЮ

☞ В аренду помещение (офис, склад). Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-68-02.

## СНИМУ

☞ 1-комнатную квартиру или "малосемейку". Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 68-2-74.

☞ Семья снимет квартиру или дом, порядок и своевременную оплату гарантируем. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-51-23 (после 20.00).

## РАБОТА

☞ Девушка с высшим педагогическим образованием (филфак) ищет работу . Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-16-59 (после 21.00), 8-0296-12-16-59.

☞ Ищу компанию для работы в Москве и Подмосковье, всех строительных специальностей и разнорабочих. Тел. в г. Береза 8-029-659-12-42.

## УСЛУГИ

☞ Семья возьмет на Черное море попутчиков, недорогой отдых с 4-разовым питанием. Тел. в г. Слоним (8-01562) 2-97-57.

